*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 29 ліпеня 1988 г. № 31 (3441) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



**Красні роднай зямлі — дзеці...** Здымак зроблены ў вёсцы Пакалюбічы Гомельскага раёна пад час фальклорна-літаратурнага свята.

Фота **С. КРЫЦКАГА.**

## ПАЭЗІЯ

**Змітрок МАРОЗАЎ**



## *Жыві, бацькоўскае сяло!*

●

Нагамонімся, агледзімся — заплачам,
Вытрам слёзы, закасаем рукавы...
Толькі працай гэты свет мы перайначым —
Да знямогі, да знямення, да крыві.
Мала пнуцца, слоўным боксам захапляцца,
Перасоўваць, разбураць, перастаўляць...
Распрыгоніць нашы душы толькі праца,
Толькі праўда можа нас уратаваць.
Толькі слова (не жалезнае — жывое!)
Можа веру ў кожным сэрцы абудзіць...
Я таксама стану некалі травою—
Не бяды, было б каму траву касіць!

●

Калі звіняць фанфары,
Змаўкае творца,
Не розум уладарыць
Тады пад сонцам.
Пануе той, хто дужы
І ўладу мае,
Папера студзіць душы,
Як снег у маі.
А нехта каля сонца
Далоні грэе...
Калі змаўкае творца,
Жыццё нямее.

●

Сокал высока лятае,
Голуб крошкі падбірае;
Сокал вольны цэлы век,
Голуб там, дзе чалавек.
Б'юць прыгожа сакалка,
Век шануюць галубка.
Лепей сокалам крыляць,
Чым з далоняў крошкі браць.

### *Адказ дэмагогу*

Адмаўляеш з лёгкасцю былое:
Сталінізм, застойныя гады,
Быццам хтось без нас рабіў благое
І без нас вяршыліся суды.
Не жылі ж на іншай мы планеце!
Мы былі! Мы ёсць! Мы там і тут!...
Адмаўляй ды помні: нашы дзеці
Нам таксама вынесуць прысуд.

### *Перад жнівом*

На тугіх крамяных каласках
Зноў зайгралі сонечныя росы,
Ад ракі ў крухмальных фартушках
Да сцяжынкі выбеглі бярозы.
Хлебадайны палявы прасцяг —
Тут мая надзея і трывога,
Я люблю паслухаць шэпт лісця
На пачатку будня маладога.
Пастаю хвілінку каля дрэў
І, спавіты іх жывым дыханнем,
Сам зраблюся крышачку мудрэй,
Пасталеўшы на адно світанне.

### *Пытанні ісціне*

Чаму адных нясуць,
А пад другіх капаюць?..
Таленавітых б'юць,
Бяздарных толькі хваляць.
Чаму мудрэц ідзе,
А дурань з шыкам едзе?
Чаму сярод людзей
Часцей сумуюць дзеці?
Чаму гамонім там,
Дзе справа не чакае,
І ў брата родны брат
Булыжнікам шпурляе?
Чаму, калі дажджы,
Нам абяцаюць лета...
О, ісціна, скажы:
Калі ты ёсць, дык дзе ты?

### *Споведзь*

Гады трыццатыя гулі
Сталёва над народам
І адрывалі ад зямлі
З карэннем род за родам.
Пасля вайны ізноў сады
І лёсы карчавалі...
І мы пабеглі ў гарады,
Якія рук чакалі.
Асотам поле не ўзрасло,
Зямля не заняпала...
Неперспектыўнае сяло
Нас ціха гадавала...

### *Каля віннай крамы*

Стаіць чарга ля віннай крамы
Які ўжо дзень, які ўжо год...
Тут і камедыя, і драма,
І боль, і сорам твой, народ.
Не людзі—згорбленыя цені,
Панура пнуцца да дзвярэй...
Надыдзе потым спаталенне
І забыццё...
А што далей?..

●

Крычалі ўсе аб ачышчэнні.
(Найбольш канторскія гулі)...
Мінула штатаў скарачэнне —
Спакой і ціша на зямлі.
Усюды згода і давер'е,
Такая ўсюды чысціня...
А бюракрат пачысціў пер'е
І сеў на новага каня!

●

Жыві, бацькоўскае сяло!
З усіх дарог мяне гукае
Твая пяшчота трапяткая,
Тваё мазольнае святло.
І колькі б вей тут не гуло—
Яны любові не астудзяць...
Жыві, бацькоўскае сяло!
Знямееш ты — мяне не будзе.

●

Здзічэлы сад і агарод —
Сівы ад лебяды.
Не чалавек — вяякі род
Сышоў адсюль...
Куды?
У гарады! І на клады...
Куды яшчэ?
Туды,
Дзе прашчур згорблены, руды
Збірае жалуды.
Не зразумець мне эры той...
Сябры, браты мае,
Дзікунства ў памяці людской
Маўчаць мне не дае.
Яно суседзіць з забыццём.
І не адны палі —
Пагосты горкім палыном
Ля вёсак зараслі.
Яно атручвае жыццё,
Надзеі, мары, сны...
Там, дзе пануе забыццё,
Пладзяцца дзікуны.

### *Пра СНІД*

СНІД пагражае чалавецтву?
Чума стагоддзя? Да пары!..
А вось душэўнаму калецтву
Ці дапамогуць дактары?
Стае чужому д'яблу пашы —
Трава ж расце і зеляна!..
СНІД нам завезлі. Дзеці — нашы...
І не канчаецца вайна.

●

Нашу раба ў сабе,
Хоць не яму малюся.
Як ноша на гарбе,
Мяне сагнуць ён мусіць.
Нат у трывожным сне
Ён побач спачывае...
Адкуль раб ува мне?
Яй-богу, я не знаю.
Нікога не віню
У бедах тых, што маю,
З самім сабой вайну
На хвілю не спыняю.
І не сагну гарба
Пад цяжкай ношай веку...
Адолею раба —
Зраблюся чалавекам.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ЗРУХІ ЁСЦЬ

### З нарады ў гаркоме партыі

Пытанні выкладання роднай мовы па-ранейшаму застаюцца ў сферы ўвагі партыйных органаў рэспублікі. Мінскі гарком партыі правёў чарговую нараду, на якой ішла гаворка аб адкрыцці беларускамоўных класаў у школах сталіцы.

З інфармацыяй выступіла загадчыца гарадскога ўпраўлення народнай асветы **Т. І. Драздовіч.** Яна паведаміла, што на сённяшні дзень маецца 220 заяў ад бацькоў шасцігодак. Пэўная работа з бацькоўскай грамадскасцю праведзена ў Заводскім, Партызанскім, Фрунзенскім раёнах. Выступіўшыя затым прадстаўнікі іншых раёнаў — Цэнтральнага, Першамайскага, Маскоўскага — на жаль, не маглі пахваліцца і тым.

З большым поспехам, як стала вядома, ідзе стварэнне беларускіх дашкольных груп і садзікаў. Шэраг школ пяройдзе на паглыбленае вывучэнне роднай мовы і літаратуры. Старшыня камісіі па выкладанні беларускай мовы і літаратуры пры СП БССР Б. Сачанка зазначыў, што ў многіх школах бацькоўскія сходы былі праведзены фармальна, для «галачкі». Справа агульная, падкрэсліў ён, і патрэбны сумесныя намаганні — партыйных, савецкіх органаў, работнікаў асветы, творчых саюзаў, — каб яе палепшыць.

**П. Садоўскі,** які ўзначальвае моўную камісію БФК, гаварыў пра ролю прэсы, у тым ліку і гарадской газеты «Вячэрні Мінск». Прэса павінна яскравей выяўляць сваю пазіцыю, не ўхіляцца ад пытанняў, што прыцягваюць сёння ўсеагульную ўвагу.

Сакратар гаркома партыі **П. Краўчанка** (ён вёў нараду) у заключэнне сказаў, што зрух, які намеціўся ў гэтай важнай справе, гарком не лічыць значным. Тым не менш, зрух усё ж ёсць, і гэта абнадзейвае.

У нарадзе прынялі ўдзел загадчыкі і інструктары аддзелаў народнай асветы, супрацоўнікі гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў, прадстаўнікі райкомаў партыі і райвыканкомаў, а таксама загадчык аддзела навукі і навучальных устаноў гаркома М. М. Фядзеня.

**Наш кар.**

## Дэкада польскай літаратуры і мастацтва ў Мінску

Заўтра яна заканчваецца. Адкрылася ж Дэкада ў мінскім Доме кнігі 21 ліпеня. Тады там жа адкрылася выстаўка плаката Польскай Народнай Рэспублікі. Дэкада і выстаўка арганізаваны Дзяржаўным камітэтам БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю сумесна з зарубежнымі краінамі. На адкрыцці выступілі прадстаўнікі Дзяржкамвыда БССР, Саюза пісьменнікаў Генеральнага консульства ПНР у Мінску.

У кніжным магазіне «Дружба» у дні Дэкады быў арганізаваны расшыраны продаж літаратуры на польскай мове. Звыш сямісот назваў твораў класічных і сучасных пісьменнікаў Польшчы, навукова-тэхнічнай, мастацтвазнаўчай, спецыяльнай і дзіцячай літаратуры чакалі сваіх пакупнікоў.

## «ПЕРАБУДОВА І МЫ»

У Маскве ў залах Цэнтральнага Дома мастака на Крымскім вале працавала выстаўка «Перабудова і мы», якую склалі лепшыя работы, дасланыя на Усесаюзны конкурс палітычнага плаката. Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займаюць семнаццаць работ-пераможцаў. Сярод іх — плакаты мінчан А. Крэнця, І. Ліннік і іншых.

**А. КАСЯНКОЎ.**

## УДМУРЦКІМ СЯБРАМ

Бібліятэчку кніг беларускіх пісьменнікаў адправілі нядаўна ў вёску Вялікая Пурга Ігрынскага раёна Удмурцкай АССР вучні Астрамечаўскай сярэдняй школы, што ў Брэсцкім раёне.

У сваім пісьме яны паведамляюць пра тое, што ў свой час, у пачатку стагоддзя, у іх роднай вёсцы была заснавана народная сельская бібліятэка. У яе стварэнні актыўны ўдзел прынялі вялікі пралетарскі пісьменнік Максім Горкі, Янка Купала, прагрэсіўны выдавец Ф. Паўлянкоў. Першым бібліятэкарам быў настаўнік А. Зянкевіч. Сёння Астрамечава, калісьці бедная, пад саламянымі стрэхамі хат вёска, — сучасны пасёлак, цэнтр буйнейшага ў нашай рэспубліцы калгаса-камбіната «Памяць Ільіча», які ўзначальвае дэпутат Вярхоўнага Савета БССР А. Скакун.

Сярод шматлікіх кніг, якія атрымалі вучні Вялікапургінскай васьмігодкі, і гэта — «Арыенцір — новыя вышыні», што ўбачыла свет ў выдавецтве «Ураджай». Яе аўтар—малады калгасны старшыня А. Скакун, які, да таго ж, не так даўно стаў членам рэдкалегіі новага беларускага часопіса «Крыніца».

Вялікапургінская васьмігадовая школа, з якой сябруюць беларускія вучні, — адна са старэйшых у аўтаномнай рэспубліцы. Нядаўна ёй споўнілася сто гадоў.

**М. ЗОРАЧКІН.**

## ВОБРАЗЫ РОДНАГА КРАЮ



Над Нёманам.

Маляўнічыя краявіды бацькоўскай зямлі... Іх шмат на выстаўцы Антона Бархаткова, што працавала ў Мінску, у Палацы мастацтваў. Сярод іх такія творы, як «Сонца зайшло за хмары», «Ветраны дзень», «Возера», «У родным куце», «Лісце пажоўкла», «Халодны лістапад», «Дарога ў лес», «Вясна на Нёмане», «Жнівень»...

У Маскоўскім дзяржаўным мастацкім інстытуце імя В. І. Сурыкава А. Бархаткоў займаўся ў майстэрні свайго земляка, славутага В. Бялыніцкага-Бірулі (нарадзіўся А. Бархаткоў у вёсцы Шчаглоўка Касцюковіцкага раёна). Настаўнік не мог не аказаць уплыву на творчасць вучня, аднак не ператварыў яго ў эпігона. А. Бархаткоў вырас у сталага і адметнага мастака, песняра бацькоўскай зямлі. Яго работы не зблытаеш з творамі іншых аўтараў.

Аб гэтым на адкрыцці выстаўкі гаварылі першы сакратар праўлення Саюза мастакоў рэспублікі С. Гарбунова, загадчык секцыі жывапісу У. Пасюкевіч, мастак А. Малішэўскі, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў. Усе яны адзначылі плённасць набыткаў, з якімі аўтар сустрэў сваё 70-годдзе.

**НАШ КАР.**

## Ці будзе ў Лідзе музей паўстання 1863 года?

Гадоў пяць назад Лідскі гарвыканком прыняў пастанову аб рэкультывацыі (гэта значыць, ліквідацыі) старых гарадскіх могілак, каталіцкіх і праваслаўных, і стварэнні на іх месцах зялёных зон. Ад праваслаўных могілак планавалася пакінуць толькі пахаванні часоў Вялікай Айчыннай вайны, ад каталіцкіх — нічога. Відаць, рашэнне гэтае можна вытлумачыць патрэбамі горада, інтарэсамі яго жыхароў, але калі заходзіць гаворка пра знішчэнне старых могілак, пачуццё такое, нібыта хтосьці плануе спаліць гістарычны архіў ці саскрэбсці з пергамента летапіс. Аднак той, хто бачыў лідскія могілкі, згодзіцца, што ў рашэнні гарвыканкома была рацыя. На працягу пасляваенных дзесяцігоддзяў могілкі ператварыліся ў сметнік і каменную крушню. Рэдка дзе ацалелі надмагіллі і крыжы. І таму рашэнне гарвыканкома, бадай, ніхто не аспрэчваў, пакуль на пачатку гэтага года не выявілася адна акалічнасць.

У Лідскі гарвыканком праз Міністэрства замежных спраў Беларусі звярнулася Генеральнае консульства ПНР у Мінску з просьбай адшукаць на лідскіх могілках магілу Валерыі Цэхановіч, удзельніцы паўстання 1863 г., якая змагалася ў атрадзе Людвіка Нарбута. Гарвыканком перадаручыў гэту справу службе грамадзянскіх абрадаў. Тыя шукалі, відаць, не вельмі пільна, бо не знайшлі. Знайшлі магілу мясцовыя краязнаўцы, зрабілі яе фотаздымак і прадставілі яго ў гарвыканком.

Было вырашана перазахаваць прах Валерыі Цэхановіч на дзеючых могілках. Тут узнікла праблема: за чый кошт гэта зрабіць? Пытанне застаецца нявырашаным, а ліквідацыя могілак пачалася...

А між тым ёсць адна прапанова, якая асабіста мне падаецца вельмі слушнай. Яна зыходзіць ад удзельнікаў лідскага маладзёжнага нефармальнага аб'яднання «Рунь». Падтрымлівае яго і лідскае аб'яднанне аматараў польскай культуры. Рунеўцы лічаць, што магіла Валерыі Цэхановіч павінна застацца на сваім месцы, толькі трэба адрэстаўраваць надмагілле. Разам з тым могілкавую капліцу, якую гарвыканком мяркуе аддаць пад краму, адрэстаўраваць таксама і зрабіць у ёй музей паўстання 1863 года на Лідчыне. Музей і магіла склалі б адзіны мемарыяльны комплекс у памяць аб тых слаўных і трагічных падзеях.

Я сказаў пра гэтую прапанову рунеўцаў намесніку старшыні Лідскага гарвыканкома Ціхану Кузьмічу Аўдзеенку (старшыня ў адпачынку). Адказ быў адназначны: «Не. Гэта немагчыма, пытанне вырашана». Магілу. сказаў т. Аўдзеенка не будзе каму ахоўваць і яна можа стаць ахвярай вандалізму. Калі ісці за такой логікай, дык — як тады быць з іншымі магіламі і абеліскамі?

Час не церпіць. Трэба неадкладна сур'ёзна разгледзець слушную прапанову моладзі Ліды. Горад, які быў адным з цэнтраў паўстання 1863 года, павінен мець адпаведны музей. А лепшае месца, чым капліца, побач з якой пахаваны паўстанец, не знайсці.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
наш спецкор.

# Да 70-годдзя БССР і КПБ

Уладзімір КАЛЕСНІК

# «Толькі праўда» ці толькі догма?

## Яшчэ раз да пытання аб так званых «нацдэмах»

**Артыкул У. Калесніка рыхтаваўся да друку, калі на гістарычным факультэце БДУ імя У. І. Леніна адбыўся «круглы стол» каардынацыйнага камітэта па праблемах гісторыі БССР і Кампартыі Беларусі з парадкам дня, блізкім да тэмы гэтага артыкула. Зважаючы на гэта, рэдакцыя палічыла патрэбным апублікаваць артыкул і справаздачу з «круглага стала» адначасова.**

**Калі ў артыкуле гісторыка літаратуры мы бачым канцэптуальную пэўнасць, дык удзельнікі «круглага стала» (на ім прысутнічаў наш карэспандэнт) падыходзілі да пытання аб беларускай дзяржаўнасці з розных пунктаў гледжання. Сам па сабе гэты плюралізм канцэпцый можна лічыць цалкам станоўчай з'явай. Інакш і не можа быць. У час перабудовы адбываецца перагляд шмат якіх ацэнак гістарычных з'яў, працэсаў і асоб. Дыскусія выявіла, што яшчэ рана ставіць кропку ў высвятленні складаных пытанняў палітычнай гісторыі Беларусі, што ацэнкі, дадзеныя раней дзеячам нацыянальнага адраджэння, не з'яўляюцца канчатковымі. Артыкул У. Калесніка і выказванні асобных удзельнікаў дыскусіі за «круглым сталом» сведчаць, што гэтыя ацэнкі могуць істотна адрознівацца паміж сабой.**

**Друкуючы артыкул У. Калесніка і справаздачу з «круглага стала», рэдакцыя мяркуе і далей звяртацца ў сваіх публікацыях да складаных праблем нацыянальнай гісторыі.**

ГУМАНІСТЫЧНАЕ бачанне жыцця, якім мы, літаратуразнаўцы, абавязаны карыстацца ўслед за мастакамі слова, заключаецца ў цэласным успрыманні чалавека як асобы, непаўторнай індывідуальнасці, якая можа тварыць дабро і зло, ствараць і разбураць, нараджаць і знішчаць. Горкая праўда кажа, што тое і другое здольны тварыць той самы чалавек у адначассе. Жывыя чалавечыя характары і адносіны цяжка ўзважваць, паняцці аб добрых і дрэнных учынках бываюць адносныя. Чаго больш натварыў — дабра ці зла — нейкі дзеяч, залежыць як ад якасці яго спраў, так і ад іх успрымання і разумення. Палітык, скажам, даволі часта не схільны даходзіць, чаго больш у таварыша Н., дабрыні ці шкодлівасці, яго цікавіць: наш гэта чалавек ці не наш, з намі ён ці не з намі... А вось гэтае «не з намі» можна разумець дваяка: «Хто не з намі, той супраць нас» (выслоўе, здаецца, з Бібліі), і «Хто не супраць нас — той з намі». Апошні выраз вядомы як дэвіз Я. Кадара, а пазней В. Ярузельскага, выпрацаваны ў крызісных сітуацыях грамадскага жыцця і выпрабаваны як эфектыўны сродак нацыянальнага прымірэння і адраджэння, ачышчэння сацыялізму ад маральных дэфармацый.

Ленін гуманізаваў палітычнае мысленне, акрасіў яго дабром, дастойнасцю і хараством. Паўстае пытанне: «Як нам хутчэй адрадзіць ленінскую сутнасць сацыялізму, ачысціць яго ад напластаванняў і дэфармацый, вызваліцца ад таго, што скоўвала грамадства і не давала ў поўнай меры развіваць патэнцыял сацыялізму». («Прынцыпы перабудовы: рэвалюцыйнасць мыслення і дзеяння», «Праўда», 6 красавіка 1988 г.)

Жывое ўваходзіць у аналы гісторыі спакваля і са скрыпам. Усё яшчэ ёсць сацыяльны заказ на схемы, на мазню, дзе рэгістратары і класіфікатары дзеі, абоз дзеячаў, класаў, мас абыходзіцца без лідэраў, народы «квітнеюць» пры адным дзеячы — цудатворцы. Ахоўваюцца прыёмы, схемы і догмы, створаныя для ўзвелічэння патайной сістэмы аўтакратычнага рэпрэсіўнага кіравання дзяржавай, мудрасці эліты, а заадно і сябе. Такі заказ антыперабудовачных кансерватыўных сіл бюракратыі, якія звыклі заказваць гісторыкам, каго прыпісаць да гісторыі, а каго спісаць. Бюракрату хочацца, каб і пісьменнік, і мастак набывалі права гістарычнага быцця з яго ласкі, а не паводле таленту.

**Адрознасць творчага індывідуалізаванага асяроддзя ад палітызаванага глыбока раскрыў У. І. Ленін у артыкуле «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура» — у першым выпадку — гэта свабода творчасці, большы прастор для самавыяўлення, права на арыгінальнасць, але і здольнасць спачуваць пакутам народа, бескарысліва служыць яму. Перанесеныя на сферу палітыкі, «артыстычныя» мадэлі паводзін выдаюцца сумніцельнымі і могуць кваліфікавацца халодна-дысцыплінаванымі дзеячамі як шкодная крамола, анархія. Мастацкае мысленне ў нейкай меры альтэрнатыва палітычнаму, мастак давяраецца сэрцу, інтуіцыі, лёсу, яго мыслі — вобразы: гіпербалы, ідэалізуючыя сімвалы, метафары, камедыйныя і трагедыйныя сітуацыі, нават абсурдныя канфлікты; а палітык мысліць сацыяльнымі і гістарычнымі катэгорыямі, яго фантазія строга лагізавана і часта даходзіць да прагматычнай уніфікаванасці, калі таго патрабуе справа, ён гатовы на кампрамісы.**

Сёння трэба вучыцца перадольваць субардынацыйныя адносіны паміж амбіцыйнай Кліо і яе сёстрамі, апякункамі мастацтваў. Актуальнасць такой задачы я адчуў, чытаючы адзін газетны артыкул, што нагадвае спробу групавога палітычнага партрэта з трагічным фіналам — рэпрэсіямі.

ПЕРШАЕ каленца — метадалагічны пасаж. Выконвае яго гісторык М. Сташкевіч, канечне ж, пад акампанемент перабудовы. Артыкул называецца заманліва «Не отступая от уроков правды», апублікаваны ён у газеце «Советская Белоруссия» за 22 сакавіка 1988 г. Мэта вызначаецца сакраментальнаю фразай: «Людзям патрэбна праўда і толькі праўда». А як гісторыкам? На гэта пытанне ідзе адказ ухілісты і неўразумелы. Спачатку паспешлівы пералік таго, чаго не павінна быць у працах гісторыкаў і што, аднак, было: фальшывасць, паўпраўда, прыхарошванне і падтасоўкі—а ўсё гэта была як бы нейкая непагадзь, што насунулася ды прайшла, а навука, гістарычная навука засталася, і яе прадстаўнік нават ног не прамачыў, сухі. Ужо гатовы даваць чыстую праўду. «Поруч з тым...» (Зноў сакраментальнае выслоўе). Што ж патрэбна яшчэ поруч з «толькі праўдай», навошта чыстай праўдзе яшчэ нейкая паручыцелька? Паслухаем: «Мы не павінны забывацца пра дакладныя светапоглядныя пазіцыі ў трактоўцы тых ці іншых праблем». Паслухаем, паслухаем — патыліцу пачухаем... Выходзіць сама праўда — гэта не пазіцыя, і не светапогляд, пазіцыя павінна быць над праўдай і светапогляд над праўдай? Былі, ёсць і будуць, канечне, такія пазіцыі і такія светапогляды, але ці можна назваць іх навуковымі і перадавымі, адпавядаючымі ленінскай традыцыі і сутнасці рэвалюцыйнай перабудовы, новага мыслення?

Думалася, што сучасны гісторык, паклаўшыся на «толькі праўду», пакажа чытачу, як ставіў нацыянальнае пытанне У. І. Ленін, выкарыстае новыя, нядаўна апублікаваныя ленінскія працы па нацыянальным пытанні, пакажа, як думаў Уладзімір Ільіч пра Беларусь, па-навуковаму раскрые праблему, якую так усхвалявана і натхнёна раскрыў у мастацкіх вобразах сваёй паэмы Г. Бураўкін. На жаль, М. Сташкевіч нават не назваў імя Леніна, не прывёў ніводнага яго выказвання. Дзіўная рэч атрымліваецца: «толькі праўда» пра гісторыю ленінскага перыяду без Леніна! З другога боку, не назваў гісторык імя і сваіх патронаў, вынаходнікаў жалезных догмаў пра ўсёпаглынаючую класавую барацьбу, небяспеку контррэвалюцыі і пудзіла нацыяналізму. М. Сташкевіч бярэцца пісаць пра гісторыю без масы, класаў, партый, дзеячаў, яго задавальняе гісторыя органаў улады і іх пастаноў. Такая метода. Злубянелая ўжо, але пакуль што, як відаць, служыць аўтару і дагаджае заказчыкам канфесіянальных вырабаў у мілай нашай правінцыі. Пазіцыя зручная тым, што дазваляе не проста «уходить от вопроса», а як гавораць бюракраты — законна. Ухіляецца аўтар ад ленінскай трактоўкі пытання аб цяжкіх родах беларускай савецкай дзяржаўнасці ў часе рэвалюцыі, дзвюх інтэрвенцый, польска-савецкай вайны і вайны грамадзянскай і аб ролі ў гэтым працэсе нацыянальнай дэмакратыі і беларускай інтэлігенцыі. Абыходзячы пытанне, ён «граміць» зарубежных ан-

(Працяг на стар. 6—7).

# І паўстала Беларусь Савецкая...

## На парадку дня «круглага стала» гісторыкаў—вырашэнне нацыянальнага пытання ў Беларусі

АПОШНІМ часам шмат слушнай крытыкі было выказана ў адрас беларускіх гісторыкаў. Рэагаваннем на яе з'яўляецца змяненне тэматыкі ў планах гістарычных даследаванняў, пошукі новых матэрыялаў і дакументаў у архівах, больш уважлівыя адносіны вучоных да ачалавечвання гісторыі, да шырокага і глыбокага аналізу ўдзелу беларускіх дзеячаў у тых ці іншых падзеях. Актывізавалася і такая форма развіцця творчай думкі гісторыкаў, як арганізацыя «круглых сталоў». Падрыхтоўку і правядзенне іх узяў на сябе каардынацыйны камітэт па праблемах гісторыі БССР і Кампартыі Беларусі, у склад якога ўвайшлі вядучыя вучоныя Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, інстытутаў гісторыі, філасофіі і права, мастацтвазнаўства і іншых інстытутаў АН БССР.

На адным з такіх «круглых сталоў», які адбыўся на гістарычным факультэце БДУ імя У. І. Леніна, былі разгледжаны складаныя і актуальныя праблемы вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі ў першы паслякастрычніцкі перыяд.

Адкрыў пасяджэнне дэкан гістарычнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна, доктар гістарычных навук, прафесар **Э. Загарульскі.** Ён адзначыў, што да пытання, вынесенага на абмеркаванне за «круглым сталом» сёння трэба падыходзіць з улікам перабудовы перыяду.

Першым слова ўзяў **М. Сташкевіч,** загадчык сектара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, кандыдат гістарычных навук:

— Праблема беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, мне здаецца, вельмі складаная. Таму пачну іменна з яе. Зыходзячы з ленінскай метадалогіі, мы лічым, што ў беларускім нацыянальна-вызваленчым, як і ва ўсякім руху, былі два патокі: ліберальна-буржуазны, які яшчэ называюць буржуазна-нацыяналістычным, носьбітамі якога былі кулакі, памешчыкі, буржуазная інтэлігенцыя, чыноўнікі, шляхта, і рэвалюцыйна-дэмакратычны, класавай асновай якога з'яўляліся рабочыя, сяляне, народная інтэлігенцыя. Але сярод пэўнай часткі зарубежных апанентаў, прыхільнікі якіх ёсць і ў Мінску, бытуе думка, што ніякіх двух патокаў у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху не было. Яны сцвярджаюць, што беларускі нацыянальна-вызваленчы рух складаўся з нацыянальнай дэмакратыі, які ні класава, ні палітычна не быў дыферэнцыраваны. Думаю, што з такой пастаноўкай пытання пагадзіцца нельга. Гэта ненавуковы падыход да вырашэння такой важнай праблемы.

Рэвалюцыя раскалола беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Яго буржуазна-нацыяналістычны паток, да якога прымкнула і правае крыло БСГ, пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, злучыўшыся з расійскай контррэвалюцыяй ва ўмовах нямецкай акупацыі, спрабуе праклямаваць так званую Беларускую Народную Рэспубліку.

Рэвалюцыйна- дэмакратычны паток, выражаючы галоўным чынам дэмакратычныя імкненні сялян, аб'ядноўваецца з рэвалюцыйнай барацьбой пралетарыяту за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады, што ў канчатковым выніку расшырае сацыяльна-класавую аснову, на якой пачыналася будаўніцтва савецкай нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа, стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі.

Каб не быць галаслоўным, прывяду словы Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова, які сам быў удзельнікам беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. У часопісе «Полымя» (№ 10, 1928 г.) ён, у прыватнасці, пісаў: «У час Кастрычніцкай рэвалюцыі канчаткова высвятляліся пазіцыі ўсіх прамежных груп. Перад беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам Кастрычніцкая рэвалюцыя паставіла пытанне, якім шляхам ісці далей, Саветы ці рада? Усе беларускія нацыянальныя арганізацыі пайшлі супраць Саветаў. Цішка Гартны пайшоў разам з Саветамі, зразумеўшы, што сапраўдныя інтарэсы працоўных Беларусі мог здагадзіць толькі шлях Кастрычніцкай рэвалюцыі... Люты — сакавік 1918 года афармілі палітычную палярызацыю беларускага руху. З аднаго боку, дзеля паглыблення рэвалюцыі збірала нацыянальна-рэвалюцыйныя сілы Беларусі Кампартыя, а з другога — на тэрыторыі акупаванай Беларусі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка і паслана прывітальная тэлеграма германскаму кайзеру з просьбай аб дапамозе ў змаганні супраць сацыялістычнай рэвалюцыі».

Чарвякоў падкрэслівае класавы характар БНР, гаворыць аб ёй як аб буржуазным дзяржаўным утварэнні. Далей ён піша: «Такім чынам стварыліся два цэнтры беларускага руху: рэвалюцыйны і контррэвалюцыйны, паміж якімі пачалася бязлітасная барацьба. Асабліва беларуская контррэвалюцыя навалілася на Цішку Гартнага, якога абвінавацілі ў здрадзе беларускай справе, у прадажнасці бальшавікам і правакацыі».

Хто належаў да аднаго напрамку гэтага руху, хто да другога? І дзе крытэрыі гэтай персаніфікацыі? Справа ў тым, што праблемы нацыянальна-вызваленчага руху савецкай гістарычнай навукай распрацаваны ў цэлым схематычна і недастаткова.

У гэтай сувязі хацелася б адзначыць наступнае: доўга ў гістарычнай навуцы панаваў сталінскі шаблон у ацэнцы нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў Расіі. Няправільна характарызаваўся і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. У публікацыях 30-х гадоў, ды і ў пасляваенны перыяд сцвярджалася, што па сваім класавым змесце ён з'яўляўся буржуазна-нацыяналістычным, адмаўлялася наяўнасць у ім рэвалюцыйна - дэмакратычнай плыні. А гэта прывяло да таго, што ў гістарычнай навуцы вузка трактавалася барацьба бальшавікоў за палітычныя рэзервы ў сацыялістычнай рэвалюцыі, не паказвалася ўзаемадзеянне і зліццё рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні беларускага нацыянальнага руху з барацьбой рабочага класа і бяднейшага сялянства за ўстанаўленне Савецкай улады ў Беларусі, няправільна раскрываліся сацыяльна-класавыя асновы, на якой разгортвалася будаўніцтва савецкай нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа. Гэта, у сваю чаргу, адбівалася на ацэнцы рэвалюцыйнай дзейнасці А. Р. Чарвякова, З. Х. Жылуновіча І. В. Лагуна і інш., якія выйшлі з рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Ім часта неабгрунтавана прыпісваліся нацыяналістычныя накіраванасць і тэндэнцыі.

У апошнія гады беларускія гісторыкі І. М. Ігнаценка, В. А. Круталевіч, А. М. Малашка, В. А. Палуян, І. І. Коўкель правялі немалую работу па даследаванні многіх праблем беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Думаю, што яна зойме дастойнае месца ў беларускай савецкай гістарыяграфіі.

Якія ж палітычныя арганізацыі сталі на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях? Магу дакладна сказаць: левае крыло Беларускай сацыялістычнай грамады, Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя, іншыя левыя групоўкі. Кастрычніцкая рэвалюцыя, абвясціўшы палітычную і юрыдычную роўнасць усіх нацый і народаў, пачала вырашэнне тых задач, якія былі пастаўлены нацыянальна-вызваленчым рухам. Вырашаліся яны, праўда, у цяжкай і нялёгкай абстаноўцы грамадзянскай вайны. Аднак нашы ідэйныя праціўнікі гэтага не хочуць зразумець. Таму і пачынаецца падмена, фальсіфі-

(Працяг на стар. 6—7).

# «ТОЛЬКІ ПРАЎДА» ці ТОЛЬКІ ДОГМА?

**(Працяг. Пачатак на стар. 5—7).**

бурбалка спатрэбілася гісторыку для падвядзення беларусаў пад агульны шаблон і падтрыманне ажываючага зараз міфа пра нацыяналістычную небяспеку ў СССР? Ці не на гэты міф працуе гісторык, калі ў другой Устаўной грамаце, выдадзенай выканкомам Усебеларускага з'езда, нават пункт аб ахове сацыяльных заваёў рэвалюцыі прапануе лічыць палітычным махлярствам? Для М. Сташкевіча, на жаль, не існуе розніцы паміж паняццямі нацыянальная дэмакратыя, культурныя дзеячы і нацыяналістычныя партыі, усе ў яго падведзены пад агульны назоўнік — нацыяналісты, контррэвалюцыянеры. А У. І. Ленін вучыў: «Трэба адрозніваць нацыяналізм нацыі прыгнятаючай і нацыяналізм нацыі прыгнечанай, нацыяналізм вялікай нацыі і нацыяналізм нацыі маленькай». (П. зб. тв., т. 45, с. 358).

**Ці так ставілася нацыянальнае пытанне кіраўніцтвам Заходняй вобласці і ці ставілася наогул, аўтар маўчыць. Ухіляецца ад пытання. Якой складвалася сітуацыя, крытычны чытач можа здагадацца хіба па тым, што пазіцыю Усебеларускага з'езда сталі падтрымліваць, — як сцвярджае аўтар, — нават манархісты і сіяністы. Для аўтара гэта толькі доказ контррэвалюцыйнасці з'езда. Але ж гэта яшчэ можа быць доказам таго, што пытанне аб праве на нацыянальнае самавызначэнне беларусаў кіраўніцтва Заходняй вобласці не было гатовым вырашаць або вырашала яго негатыўна. Дык ці не гэтая недаацэнка ленінскай палітычнай установкі штурхнула прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі франдзіраваць, прымаць удзел у сумніцельных авантурах, а нацыяналістычных авантурыстаў паднімала на п'едэстал патрыётаў і змагароў за нацыянальныя свабоды? Абойма дзеячаў нацыяналістычнай контррэвалюцыі ў М. Сташкевіча стракаціць прозвішчамі беларускіх пісьменнікаў, публіцыстаў, вучоных — Я. Лёсік, В. Ластоўскі, А. Зязюля, А. Луцкевіч, І. Луцкевіч, С. Некрашэвіч, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч. Аўтара чамусьці не бянтэжыць такая акалічнасць. Стаць буржуазным нацыяналістам і контррэвалюцыянерам-антысаветчыкам — гэта тое самае ў яго, што ў цырульні стрыжку змяніць. Але ж рэвалюцыйнай улады на Беларусі не разумелі не толькі замешаныя ў палітычных акцыях інтэлігенты. Са спазненнем прымалі рэвалюцыю Купала, Колас, нават Бядуля, які быў звязаны з нацыянальна-вызваленчым рухам беларусаў не нацыянальна, а гуманістычна. Пад графу «беларускі нацыяналіст» яўрэя падвесці цяжкавата, а ён, дарэчы, мае на рахунку не менш антысавецкіх публіцыстычных выступленняў, чым пералічаныя М. Сташкевічам беларусы. Канфлікт цягнуўся да таго часу, пакуль у авангардзе рэвалюцыі і ў савецкім кіраўніцтве не наспела ідэя ўтварэння БССР і ўрад створанай рэспублікі не даказаў, што ён, будучы бальшавіцкім і савецкім, па-сапраўднаму можа клапаціцца аб нацыянальных інтарэсах беларусаў.**

УСЕ народы на планеце, што вядуць барацьбу за нацыянальнае вызваленне, маюць сваю нацыянальную дэмакратыю, куды ўваходзяць лепшыя сілы народа, а беларусы не маюць. Затое маюць гісторыкаў, з ласкі якіх нацыянальная дэмакратыя абрыджана з часу сталінскіх рэпрэсій і да сённяшніх часоў, а сам тэрмін ператвораны ў абразлівую мянушку «наццэмаўшчына» — сінонім і жупел нацыяналізму. Улада гэтага амулета такая моцная, што М. Сташкевіч, выступаючы ад імя перабудовы, не смее парушыць табу. Ён бачыць на Беларусі ў перыяд лютаўскай рэвалюцыі, Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны толькі беларускіх нацыяналістаў, якія, не дабіўшыся падтрымкі мас на выбарах ва Устаноўчы сход, пайшлі на авантуры, склікалі самазваны Усебеларускі з'езд, выступалі супраць Савецкай улады. «З'езд, — піша аўтар, — супрацьпаставіў сябе ўжо існуючай у Беларусі законнай уладзе». Але ж Беларусь не была абвешчана не то што дзяржавай, але хоць бы нацыянальнай акругай, сам тэрмін Беларусь не быў уведзены ва ўжытак. Ці адпавядала такая законнасць законным інтарэсам беларускага насельніцтва, якое па розных прычынах не магло свабодна выказвацца? Выбары — гэта ж не рэферэндум. Аўтар піша, што на пасяджэннях праявілася антысавецкая сутнасць Усебеларускага з'езда і «контррэвалюцыйныя намеры большасці яго ўдзельнікаў». А якімі былі намеры меншасці ўдзельнікаў? Магчыма, тая меншасць лаяльна выражала імкненне беларускага народа на ўтварэнне незалежнай сацыялістычнай беларускай дзяржавы, якая была ўсё ж створана пазней. Органам Савецкай улады на тэрыторыі цэнтральнай Беларусі быў Выканком Заходняй вобласці. Выконваючы дэкрэт Паўночна-заходняга Абкома РСДРП, ён распусціў Усебеларускі з'езд. Але ж распусціць з'езд не азначала вырашыць нацыянальнае пытанне, ды яшчэ па-ленінску. Пытанне засталося, нацыянальна-вызваленчы рух, як вядома, бывае ў прынцыпе рухам дэмакратычным, а не нацыяналістычным, як хочацца аўтару. Новае, што дадае ён да артадаксальных мянушак, гэта слоўка экстрэмізм. Тэрмін сучасны, модны, але ж экстрэмізм бывае дваякі: правы і левы, лявацкі. Звычайна яны як дзве крайнасці выступаюць адначасова і звязаны паміж сабою. Гэта, здараецца, прызнаюць са спазненнем, як, напрыклад, у Афганістане, дзе самую рэспубліку давялося перайменаваць. Дапусціць нешта падобнае на Беларусі аўтар лічыў бы крамолай, ён запраграмаваны на тое, каб абараняць святы дэкрэт і лаяць экстрэмісцкія ўстаўныя граматы нацыяналістаў, якія пачаў выдаваць ад імя распушчанага з'езда новы самазванец — Выканаўчы камітэт — пад дыктоўку Язэпа Лёсіка.

Тут бы задумацца: а што ж давала энергію быцця гэтаму самазванцу? Ці часам не промахі кіраўніцтва Заходняй вобласці, якое не выконвала палітычных установак ленінскай нацыянальнай палітыкі, не ўмела ці не хацела супрацоўнічаць з нацыянальным рухам, ігнаравала яго, штурхала на экстрэмісцкія выхадкі не адных нацыяналістаў, але і прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігенцыі? Не бянтэжаць гісторыка і персаналіі: у спісках нацыяналістаў апынуліся вядомыя прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, якім належала быць у шарэнгах нацыянальнай дэмакратыі ды «даспеўваць» тую песню аб Радзіме, якой не даспяваў прыгнечаны народ ва ўмовах царызму. Аўтара цікавіць толькі адзін бок справы: колькі кубаметраў дроў наламалі нацыяналісты, яны ж і экстрэмісты, у лесе Савецкай улады Заходняй вобласці, пазней Заходняй Камуны. Вылучаюцца сярод іх Язэп Лёсік і А. Смоліч — завадатары абвяшчэння БНР. Спрэчкі па гэтым пытанні, як зазначае аўтар, цягнуліся на сесіі Рады ўсю ноч з 24 па 25 сакавіка 1918 г., а хто з кім спрачаўся, пра што спрачаліся — толкам невядома. Аўтар піша: «Дакладчык і ўсе, хто выступіў на гэтым нацыяналістычным зборышчы, «слишком откровенно» (?) дэманстравалі сваю прыхільнасць германскаму кайзеру». Але ж дэманстрацыя прыхільнасці — не спрэчкі...

**Прозвішчы Лёсіка і Смоліча ўваткнаны ў такі махровы нацыяналістычны букет, што ўсё і так ясна. Пазіцыя Лёсіка падаецца ў артыкуле адным выслоўем, узятым з газеты «Вольная Беларусь»: «абараніць Айчыну ад заразы з цэнтра». Гісторык каменціруе выказванне злонамысна, як заклік да беларускага народа (!) бараніцца ад сацыялістычнай рэвалюцыі. Хто-хто, а Лёсік ведаў, што падбухторваць прыгнечаны царызмам, знявечаны вайною народ супраць рэвалюцыі, якая несла яму надзею і адкрывала перспектывы, — азначала рабіць з сябе дурня. Адкуль жа такая пэўнасць у гісторыка наконт падтэксту. Чаму Лёсік не мог падразумяваць пад «цэнтрам» тых цэнтрыстаў у краі, якія трымалі ідэал вольнай Беларусі ў пракруставым ложы Заходняй вобласці ці Заходняй Камуны? Калі Я. Лёсік сапраўды быў такім заўзятым палітыканам і заклятым ворагам сацыялізму, як падае М. Сташкевіч, дык у Савецкую Беларусь ён бы не вяртаўся (ды і вярнуўся не са страху), мог бы палітыкаваць сабе на эміграцыі колькі ўлезла і жыць бязбедна, памерці сваёй смерцю, так, як чыстыя палітыканы — Крачэўскі, Захарка ці той жа сакратар Рады Тамаш Грыб. Зрэшты, маючы літаратурныя і навуковыя здольнасці і салідныя гуманітарныя веды, Я. Лёсік мог бы адысці ад палітыкі і займацца навуковай дзейнасцю...**

# І ПАЎСТАЛА БЕЛАРУСЬ САВЕЦКАЯ...

**(Працяг. Пачатак на стар. 5—7).**

былі ўключаны ў гэтыя палітычныя цэнтры беларускага нацыяналізму. Гэта гаворыць аб многім.

**А. Залескі:**

— Вадзім Андрэевіч, вы закранулі пытанне дзяржаўнасці БНР. Як вы лічыце: гэта было дзяржаўнае фарміраванне, ці гэта была група, якая ўзначальвала толькі пэўную палітычную плынь? Мы маем шмат прыкладаў, калі нешта зараджаецца, развіваецца. Ну, скажам, Хамейні яшчэ ў Францыі аб'явіў сябе прэзідэнтам Ірана і вярнуўся з трумфам у краіну. Класічны прыклад мы маем і з Польшчай у час вайны. Польская дзяржава тэрытарыяльна была акупіравана, польскі ўрад быў у Лондане. Зараз гаворыцца, што Польская дзяржава ў час вайны існавала, толькі акупіраваная, дзяржава, якая змагаецца. Скажыце: як гэта зразумець?

**В. Круталевіч:**

— Але тут няма ніякай аналогіі з БНР. У міжнародным праве ёсць такое паняцце — урад у выгнанні. Гэта законны ўрад, які ў сувязі з акупацыяй вымушаны быў эмігрыраваць у іншую краіну. Яго прызнаюць як урад, з ім нават заключаюць дагавор і г. д.

**У. Сосна,** дацэнт кафедры гісторыі БССР БДУ імя У. І. Леніна, кандыдат гістарычных навук:

— Тут узнікла тэма аб адносінах нацыянальнай інтэлігенцыі да рэвалюцыйных працэсаў у перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі. Указвалася: вельмі цяжка пісьменнікі пераходзілі на бок Савецкай улады. Гэта, мабыць, тлумачыцца не толькі складанасцю, супярэчлівасцю таго часу, а і тым, што кіраўнікі Паўночна-заходняй арганізацыі бальшавікоў не вельмі добра разумелі нацыянальныя справы і фактычна нічога не прапаноўвалі беларускаму нацыянальнаму руху. Таму многім дзеячам было незразумела, якіх пазіцый прытрымліваюцца мясцовыя партыйныя і савецкія органы.

**В. Круталевіч:**

— Вядома, гэта трэба ўлічваць, але калі ваганні беларускай інтэлігенцыі звязваць толькі з памылкамі, што былі допушчаны Паўночна-Заходнім абкомам партыі, дык гэта будзе перабольшанне.

Безумоўна, гэта акалічнасць аказала вялікае ўздзеянне на фарміраванне пазіцыі Янкі Купалы. Наколькі можна меркаваць па яго артыкулах, паэт уважліва назіраў, што адбывалася ў Заходняй вобласці, якія былі адносіны да беларускай мовы, кнігавыдання. Ён аналізаваў прэсу, а там можна было сустрэць нігілістычныя адносіны да нацыянальнага, асабліва да беларускага. У 1918 годзе ён служыў у адной з арганізацый Заходняй вобласці. Здаецца, літаратуразнаўцы не знайшлі нават дакументаў, якія б сведчылі аб тым, што органы асветы Заходняй вобласці імкнуліся далучыць Купалу да культурнага будаўніцтва. 1918 год быў вельмі цяжкім для палітычнага самавызначэння паэта. Пілсудскі заявіў, што ён старонік федэрацыі Польшчы, Беларусі і Літвы як раўнапраўных дзяржаўных адзінак. Для значнай часткі нацыянальнай інтэлігенцыі гэта здавалася манной нябеснай. Пілсудскі нічога не выканаў са сваіх абяцанняў, але яму паверылі.

Мы часта занадта прасталінейныя і катэгарычныя ў ацэнках паводзін інтэлігенцыі. Пераважаюць стэрэатыпы. Важныя правільныя крытэрыі. Палітычны выбар для інтэлігенцыі Беларусі, улічваючы двухразовую акупацыю, быў вельмі складаны.

На любым гістарычным этапе нацыянальны рух трэба звязваць з сацыяльна-класавым працэсам, з барацьбой за палітычную ўладу, за сацыяльную перабудову, выразна бачыць, якое месца займаў ён у сукупнасці гэтых працэсаў.

**М. Сташкевіч:**

— У сувязі з гэтым хацеў бы прачытаць адзін дакумент. 25 красавіка 1918 года група дзеячаў БНР: А. І. Цвікевіч, В. М. Доўнар-Запольскі, П. В. Трымковіч падпісалі такі дакумент: «Зварот да германскага пасла пры ўрадзе Украінскай Народнай Рэспублікі». Яго апошні пункт гаворыць: «Мы прасілі б устанавіць з мясцовымі нямецкімі ўладамі такія адносіны, пры якіх наш урад мог бы арганізаваць свае сілы для ўстанаўлення сваёй улады ва ўсходняй частцы Беларусі, цяпер занятай бальшавікамі». Яны звярталіся да германскага пасла па даручэнні Рады БНР. Адказу, безумоўна, не было.

**А. Малашка,** доктар гістарычных навук:

— Звычайна гавораць, што беларускія палітычныя партыі (маюцца на ўвазе буржуазныя і дробнабуржуазныя) сабралі на выбарах ва Устаноўчы сход усяго 0,3 працэнта галасоў. Думаю, яны сабралі б больш пасля падпісання Брэсцкага міру, таму што Кампартыя да роспуску Устаноўчага сходу адкрыта не заяўляла аб схільнасці яго прыняць. А па Брэсцкім дагаворы Беларусь разрывалася на дзве часткі, што магло адштурхнуць ад яе нацыянальныя сілы. Частка беларускіх нацыянальных сіл падтрымала партыю эсэраў, якія ў сваёй праграме праклямавалі федэратыўную рэспубліку, у якой Беларусь магла б атрымаць сваю аўтаномію. Таму партыя эсэраў карысталася папулярнасцю сярод пэўнай часткі сялянства. Але калі б Кампартыя заключыла тады мір, то яна сабрала б ва Устаноўчы сход менш галасоў.

**П. Бажко,** старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР:

— Калі размова ідзе аб нацыянальна-вызваленчым руху, трэба мець на ўвазе не толькі беларусаў, але і палякаў, украінцаў, латышоў, літоўцаў, татараў, таму што на Заходнім фронце яны фарміравалі свае палітычныя партыі. Гэты бок пытання фактычна не даследаваны. Узяць хоць бы латышскі нацыянальна-вызваленчы рух. Ён быў магутны, глыбокі. У канчатковым выніку латышская сацыял-дэмакратыя злілася з бальшавіцкімі арганізацыямі. Так было ў Віцебску, Магілёве, Мінску. Нацыянальна-вызваленчы рух у цэлым на тэрыторыі Беларусі, натуральна, зліваўся з барацьбой рабочага класа за палітычную ўладу.

Мяснікоў і Кнорын з'яўляліся ўдзельнікамі нацыянальна-вызваленчага руху. Але памылкі ў іх былі. Пасля ліпеньскіх падзей яны падтрымлівалі лозунг «Уся ўлада Саветам!». Ёсць меркаванне, што яны наогул не здымалі гэты лозунг з парадку дня. Яны правільна зрабілі, што на пэўным этапе падрыхтоўкі Кастрычніцкай рэвалюцыі галоўныя сілы сканцэнтравалі на Заходнім фронце, дзе была мільённая ўзброеная армія. Такая тактыка прынесла поспех. Але калі б яны былі больш гнуткімі ў некаторых нацыянальных пытаннях, то змаглі б прыцягнуць на свой бок і беларускую інтэлігенцыю.

Я не зусім згодны, што Якуб Колас не належаў ні да якой палітычнай партыі. Ён лічыўся ў спісах Устаноўчага сходу, а па яго заканадаўчых актах лічылася: калі хтосьці не даваў пісьмовай згоды на тое, каб каціравацца ў якой-небудзь палітычнай партыі, яго ўключаць у спіс не мелі права. Былі ж выбарчыя камісіі, якія самым уважлівым чынам сачылі за гэтай справай. Граха вялікага няма, што Колас належаў на пэўным этапе да якойсьці партыі.

З нашага абмеркавання ясна, што ў народзе, у прыватнасці, у інтэлігенцыі былі супрацьлеглыя адносіны да БНР і да ўтварэння Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі. Гэта зусім натуральна. Лічыць БНР дзяржаўным утварэннем ці проста палітычным фарміраваннем? Галоўным трэба лічыць той факт, што сам народ, не пэўныя колы інтэлігенцыі, а сам народ Беларусі не падтрымаў БНР.

**М. Кузняцоў,** старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, доктар гістарычных навук:

— Я здзіўлены, што ў выступаючых няма адзінай думкі аб БНР. Мне здаецца, пра яе трэба сказаць зусім пэўна: гэта ніякая не рэспубліка, тым больш народная. Выбары ва Устаноўчы сход паказалі, што рабочыя, сяляне, салдаты пайшлі за бальшавікамі.

Цяпер некалькі слоў аб так званым першым Усебеларускім з'ездзе. Яго ўдзельнікі не выбіраліся, а запрашаліся. Запрошаныя ж зусім не з'яўляліся прадстаўнікамі народа. Не ўсё гладка праходзіла і на з'ездзе. На ім былі людзі, якія бачылі сапраўдныя намеры нацыяналістаў. Прадстаўнік «левай» фракцыі А. Вазіла гаварыў, што яны «хочуць наш родны беларускі край адарваць ад вялікага цела Расіі». І заявіў: «Хто вы, з польскім акцэнтам гаворачыя на беларускай мове аб нейкім будучым шчасці незалежнай Беларусі? Вы не ад народа». Нацыяналісты канчаткова выкрылі сябе, калі адхілілі Аблвыканкомзах і Саўнарком Паўночна-Заходняй вобласці і фронту, паўнамоцныя органы Савецкай улады ў Беларусі, выбраныя рабочымі, сялянамі і салдатамі. Таму па загадзе СНК Н. І. Крывашэін, начальнік Мінскага

# «ТОЛЬКІ ПРАЎДА» ці ТОЛЬКІ ДОГМА?

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5—9).

польска-савецкую граніцу, устаноўленую паводле Рыжскага міру, не спяшаліся прызнаць краіны Антанты, а сілы контрэвалюцыі за мяжой яшчэ рабілі стаўку на новую інтэрвенцыю імперыялізму супраць усёй Савецкай краіны. Што ж магло абудзіць сімпатыі да БССР у прадстаўнікоў нацыянальнай дэмакратыі за мяжой: пагрозлівае патрасенне кулакамі ці прымірэнчыя акцыі і поспехі культурнага будаўніцтва? Што ж прымусіла беларускіх інтэлігентаў вяртацца дамоў: страх ці перакананне, што кіраўніцтва БССР узяло курс на нацыянальнае адраджэнне, а кіраўніцтва былой Заходняй вобласці аказалася некампетэнтным у разуменні нацыянальнай сітуацыі на Беларусі і ў свой час недастаткова інтэрнацыянальным? Так, я не агаварыўся. Вось як разумее інтэрнацыянальную ролю камуністаў генеральны сакратар Кампартыі Уругвая Радней Арысмендзі: «Інтэрнацыяналізм неаддзялімы ад выканання нашага абавязку — быць рэальнай партыяй ва ўласнай краіне». Ці ёсць у архівах Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, дзе працуе М. Сташкевіч, дакументы, якія б сведчылі пра адчуванне такога абавязку ў кіраўніцтве Заходняга абкома РСДРП(б) і ў перыяд яго існавання? Такія матэрыялы, а не мянушкі трэба было прыводзіць аўтару палітычнага партрэта.

**Нехта можа мне запярэчыць: выказванне Р. Арысмендзі, апублікаванае ў «Правде», належыць сённяшняму дню, а Заходняя вобласць і Заходняя Камуна былі даўно. Слушна, але ж асноўныя прынцыпы ленінскай нацыянальнай палітыкі былі выпрацаваны яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Зжыванне памылак на Беларусі працякала па абодвух баках нацыянальнага канфлікту. І толькі такі працэс мог працаваць на галоўную мэту — уз'яднанне беларускага народа ў адзінай сацыялістычнай дзяржаве. Справа не толькі ў вылучэнні на кіруючыя пасады ў дзяржаве і ў партыі беларусаў, «коренизация», працэнтоўка ў кадравай палітыцы не галоўны прынцып. А. Мяснікоў (Мяснікян) мог бы з поспехам кіраваць партыйнай арганізацыяй ці ўрадам рэспублікі, калі б глыбока засвоіў ленінскую тэорыю і лічыў, што беларусы заслугоўваюць мець сваю сацыялістычную дзяржаву, якая дапаможа ім хутчэй зліквідаваць адсталасць і ўдзельнічаць на роўных у эканамічным, палітычным і культурным жыцці краіны. На жаль, Мяснікоў адносіў акты абвяшчэння БССР, відаць, у сферу палітычнай тактыкі, а не стратэгіі. Пасля яго ад'езду з Беларусі на іншую работу Урад БССР у 1923 годзе, як гэта піша М. Сташкевіч, прыняў з выпадку 3-й гадавіны вызвалення Мінска пастанову аб дараванні віны «тым дзеячам беларускіх нацыянальных партый і арганізацый, якія «публічна аб'явілі аб сваіх лаяльных адносінах да Савецкай улады і не прымалі актыўнага ўдзелу ў барацьбе супраць Савецкай улады ў радах савінкаўскіх, балахоўскіх і іншых белагвардзейскіх арганізацый...». Шкада, што аўтар не падаў, як у тэксце пастановы называюцца тыя партыі і арганізацыі, якія ён падвёў пад крымінал нацыяналістычных. Не гаворыць аўтар і пра тое, што ў 1924 годзе па ініцыятыве Урада БССР была дасягнута дамоўленасць з Урадам РСФСР аб пашырэнні тэрыторыі рэспублікі, аднясенні ўсходніх граніц да мяжы этнічнага рассялення беларусаў.**

На VII з'ездзе КПБ, у сакавіку 1923 года было пастаўлена пытанне аб узбуйненні БССР, па прапанове беларускіх камуністаў ЦК РКП(б) прыняў пастанову аб пераносе граніц Савецкай Беларусі на ўсход за кошт сумежных раёнаў Расійскай Федэрацыі, дзе беларускае насельніцтва складала этнічную большасць. Прэзідыум ЦВК СССР 7 сакавіка 1923 г. прыняў пастанову аб аб'яднанні ў складзе БССР усіх тэрыторый Савецкага Саюза з большасцю беларускага насельніцтва. Шосты Усебеларускі з'езд Саветаў 13 сакавіка 1924 г. заканадаўча сцвердзіў узбуйненне БССР, VIII з'езд КП(б)Б 12 мая 1924 г. ухваліў гэтае рашэнне ўрада рэспублікі. Гэты акт атрымаў прызнанне найбольш светлых прадстаўнікоў беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі за межамі БССР, схіліў вяртацца на радзіму або супрацоўнічаць з левымі сіламі, удзельнічаць у будаўніцтве беларускай дэмакратычнай культуры, навукі і асветы.

ТАК, інтэлігенты, бывала, кідаліся ў палітычна безнадзейныя авантуры, у сумніцельныя спекуляцыі, спрабуючы здзейсніць абвешчанае Кастрычнікам права на нацыянальнае вызначэнне народа ва ўмовах, калі рэальныя жыхары беларускіх вёсак, мястэчак, гарадоў, прыціснутыя нягодамі, не да канца разумелі каштоўнасць гэтага права. Становішча беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі сапраўды было трагічным, трагічным удвая, бо трагізму гэтага доўга не было каму зразумець. Зразумеў і паспагадаў Ленін. Але сучасны гісторык незнарок як бы хоча давесці, што спагадаць не варта было, бо ўсё, што рабілі кіраўнікі Заходняй вобласці,—правільна, а сёння застаецца хіба толькі вярнуць БССР статус Заходняй вобласці і закрыць праблему. Тыя інтэлігенты, якіх аднабакова разглядае і брыдзіць імем «толькі праўды» гісторык, яшчэ ва ўмовах царскага прыгнёту ахвярна дзейнічалі ў шэрагах адраджэння беларускай культуры і не патрабавалі зарплаты. Гэта першая «толькі праўда» і з яе трэба пачынаць.

Факт рэпрэсій М. Сташкевіч тлумачыць як адвакат тых, хто рэпрэсіраваў без разбору, і пракурор рэпрэсіраваных. Але ва ўсе часы пакаранне памілаванага лічылася подласцю, паважаны калега. Ці, можа, амніціраваныя зноў чаго-кольвечы натварылі, не хапала вытрымкі «нацдэмам» глядзець на перагібы калектывізацыі, на глум над працоўным сялянствам, якое ледзь паспела крыху ачуняць ад вайны, разрухі, галадухі і тыфозных паморкаў, як пачаліся зноў галадушныя эксперыменты? Можа, сарвалася ў каго чалавечае слова спагады хлебаробу, якое выдалі за варожую прапаганду ці нават за нацыяналістычную змову супраць Савецкай улады? Як жа ўсё-такі было з рэпрэсіямі і не толькі супраць памілаваных інтэлігентаў (тут здагадацца можна), але як і чаму было рэпрэсіравана і знішчана ўсё ленінскае кіраўніцтва рэспублікі, якое падпісала тое памілаванне і дабілася пашырэння тэрыторыі рэспублікі, дбала і рупілася пра нацыянальную культуру, асвету, мову?

**Дарэчы, галоўны рэдактар літоўскага выдавецтва «Перыёдына» Г. Юдзіцкас сказаў у інтэрв'ю «Литературной газете» 13 красавіка г. г.: «Хочам звярнуцца ў высокія юрыдычныя інстанцыі, каб вырашыць пытанне аб друкаванні стэнаграмаў судовых працэсаў па справах, якія раней былі ўзбуджаны ў рэспубліцы, а цяпер перагледжаны». Прыемна чуць пра такі клопат аб «толькі праўдзе», шкада, аднак, што не нашай рэспубліцы належыць ініцыятыва. Да добрых традыцый «Літоўскай метрыкі» аказаліся больш чулымі літоўцы, чым беларусы. Вось яскравы прыклад нацыянальнай самапавагі, хоць пераважная большасць дакументаў метрыкі, што складаюць 600 тамоў рукапісаў, напісана на старабеларускай мове.**

Практыка публікаваць судовыя матэрыялы існавала на Беларусі з часоў Вітаўта. Продкі лічылі, што памяць аб судах і прысудах выхоўвае павагу да законаў, юрыдычных нормаў, вучыць, як трэба законна ахоўваць годнасць і правы чалавека. Чаму ж сучасны гісторык, праўдалюб не прапануе вярнуць добрую традыцыю выхавання пашаны да законаў сёння, калі грамадства сапраўды хоча забіць асінавы кол у магілу беззаконнасці?

М. Сташкевіч літасціва дазваляе вярнуць сучаснікам культурную спадчыну незаконна рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў і вучоных, толькі напамінае пра класавы падыход. А каму трэба такі напамінак, каму выгадны? Канечне, кантралёрам. Няма ў нашай краіне думаючых людзей, якія б не разумелі, што да ўсяго жыцця класавых грамадстваў трэба падыходзіць з класавых пазіцый. Толькі няхай будзе ласкавы гісторык падказаць мне той клас, які захоча ўзяць на сваё класавае сумленне злачынствы Сталіна і сталіністаў, Ягоды, Яжова, Вышынскага, Берыя, Цанавы? Я, пры сваёй гуманітарнай

# І ПАЎСТАЛА БЕЛАРУСЬ САВЕЦКАЯ...

(Заканчэнне. Пачатак на стар 5—9).

Захавалася цэлая папка скаргаў сялян, якія ў перыяд нямецкай акупацыі звярталіся ў народны сакратарыят БНР з просьбай вырашыць іх скаргі аб рэквізіцыях, праводзімых акупантамі з 10-й арміі. Дарэчы, 10-я армія мела сваю газету, дзе публікаваліся матэрыялы БНР.

Што датычыць нацыяналістычнай прэсы таго часу, дык яна таксама вельмі слаба вывучана. Мне думаецца, што з матэрыялаў газет высветліліся б многія пазіцыі па персаналіях. Відаць, гісторыкаў тут яшчэ чакаюць свае адкрыцці. Трэба глыбока разглядаць фактычны бок праблемы. А то атрымліваецца так, як з «Гісторыяй беларускага тэатра»: напісалі яе, не выкарыстаўшы амаль ніводнага архіўнага дакумента з ЦДАМЛіМ БССР. І гэтую работу нават вылучалі на прэмію. Хіба так можна?

Далей. Як быць з дакументамі, што знаходзяцца за мяжой? Мы працуем сумесна з Беларускім фондам культуры. У нас ёсць праграма «Вяртанне». Міжнароднае права дазваляе, як правіла, адно — атрымаць копіі за грошы. Валюты ў архівістаў няма. Дзякуючы Беларускаму фонду культуры некаторыя актывы, спадзяюся, хоць бы ў копіях, вернем. У тым ліку з ЗША.

**А. Залескі:**

— Так, вывучаць гісторыю — гэта не значыць штосьці выдумваць, імправізаваць. У гэтай сувязі я зноў вяртаюся да У. Ігнатоўскага. Яго апублікаваныя кнігі — гэта біблія беларускага нацыяналізму. У яго «Гісторыі Беларусі ў XIX і пачатку XX стагоддзяў» усяго толькі дзве старонкі аб тым, як адкрываўся і рыхтаваўся беларускі з'езд 14 снежня 1917 года і як потым стваралася БНР, як яна ўваходзіла ў гісторыю. Цяпер апалагетыка БНР будуецца на канцэпцыі У. Ігнатоўскага аб бяскласавасці беларускай нацыі. Самым навязлівым чынам, з кнігі ў кнігу, з раздзела ў раздзел у яго паўтараецца, што беларуская нацыя — толькі мужыцкая нацыя. Нават перад 1917 годам Ігнатоўскі гаварыў: пан — паляк, вяльможа — рускі, купец — яўрэй, чыноўнік — рускі і г. д. У лепшым разе Ігнатоўскі прызнае дробную беларускую шляхту. Таму і нацыянальны рух разглядаецца ў канцэпцыі Ігнатоўскага і тых, хто цяпер яго паўтарае, як рух працоўнага народа, сцвярджаецца, што беларускі нацыянальны рух абараняў яго інтарэсы.

Мяне здзівіла, што на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР адзін прамоўца зменшваў нават рэакцыйную ролю Рэчы Паспалітай пасля Люблінскай уніі ў гісторыі беларускага народа. У яго атрымалася, што гэта была мірная федэрацыя: палякаў, літоўцаў, беларусаў, украінцаў. Усё гэта зноў жа ідзе ад Ігнатоўскага, які гаварыў, што Люблінская унія — гэта абарона ад агрэсіі расійскага царызму. Вось адкуль ідзе няправільнае разуменне нацыянальнага руху. Трэба дыферэнцыравана падыходзіць да гэтых пытанняў.

Хацеў бы сказаць аб юрыдычным і гістарычным статусе БНР. Безумоўна, БНР была ў стадыі фарміравання, дэкларатыўнасці, але разглядаць яе толькі як арганізацыю, якая ўзначальвала палітычную плынь, мабыць, няправільна. Трэба вывучыць гэта пытанне глыбей. Мне думаецца, БНР — гэта хоць і ў пачатковай стадыі, але ўсё ж дзяржаўнае фарміраванне. Кіраўнікі БНР заігрывалі з немцамі, з белапалякамі, а потым ездзілі на Генуэзскую канферэнцыю, дзе імкнуліся сарваць там заключэнне Савецкай краінай дагавораў (маўляў, не ўлічваюцца інтарэсы Беларусі, яе самастойнасць і г. д.). Нельга скідваць з рахунку і гэта.

Трэба даваць класавую характарыстыку БНР, як гэта робіць у сваім артыкуле М. Сташкевіч у «Советской Белоруссии» (27 сакавіка г. г.). У ім, магчыма, ёсць якіясьці недакладнасці. Гісторыкі могуць спрачацца ў дэталях, але агульны характар яго застанецца той жа: гэта — Савецкая Беларусь, а гэта — буржуазная БНР. Што датычыць стварэння БССР, то, нягледзячы на асобныя памылкі мясцовых кіруючых кадраў, гэта быў трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі.

**М. Сташкевіч:**

— Як вы адносіцеся ў кантэксце вашага выступлення да Ластоўскага, Цвікевіча і іншых дзеячаў БНР, якія пасля амністыі 1923 года вярнуліся ў БССР? Ваша думка пра дзейнасць Лёсіка, Некрашэвіча, якія засталіся ў БССР і былі далучаны да навуковай работы? Якая карысць іх працы для Савецкай Беларусі?

**А. Залескі:**

— Гэта былі ворагі Савецкай улады, таму што стаялі на тым баку барыкад. Многіх тады асудзілі. І не толькі ў Беларусі. Гэта была агульная карціна нашага жыцця 30-х гадоў. Наконт вяртання Лёсіка, Некрашэвіча. Такое таксама адбывалася па ўсёй краіне. Гэта было блуканне па пакутах, як пісаў А. Талстой. Але яны ўключаліся ў сацыялістычнае будаўніцтва са сваёй нацыяналістычнай ідэалогіяй. Яны былі ў мінулым ворагамі, не рэабілітаванымі, а амністыраванымі.

**І. Коўкель,** загадчык кафедры грамадскіх навук Гродзенскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў, кандыдат гістарычных навук:

— Неабходна канкрэтна і больш акрэслена выказацца па пытанні: ці была БНР дзяржаўным утварэннем, ці карысталася яна падтрымкай народных мас. Думаю, мелі рацыю Вадзім Андрэевіч і Мікалай Сцяфанавіч, якія прытрымліваюцца таго пункту гледжання, што БНР дзяржавай не з'яўлялася. Калі гаварыць аб уплыве, аб падтрымцы і аўтарытэце яе народнымі масамі, то тут павінна быць адзіная думка. Яна не карысталася аўтарытэтам. Рабочыя і сяляне ведалі, што той, хто супрацоўнічае з акупантамі, — супраць народа, а БНРаўцы якраз і супрацоўнічалі з захопнікамі. Неабходна, відаць, улічваць і тую агітацыйна-масавую работу, якую праводзілі бальшавікі. Да таго ж, у час нямецкай акупацыі на тэрыторыі Беларусі быў даволі шырокі партызанскі рух, які таксама не садзейнічаў уплыву БНР на народныя масы.

Калі мы гаворым пра некаторых беларускіх дзеячаў, неабходна больш дакладна прытрымлівацца класавага, партыйнага падыходу, чаго, на жаль, многім вучоным не хапае і ў Мінску, і ў Гродне. Некаторыя нават імкнуцца перагледзець класікаў беларускай літаратуры, да якіх намераны аднесці і Ларысу Геніюш. Ту саму Геніюш, якая пасылала тэлеграму ўдзячнасці Гітлеру за вызваленне Беларусі ад узурпатараў-бальшавікоў! Так можна дагаварыцца немаведама да чаго.

Гэтыя пытанні неабходна больш шырока ўздымаць на старонках друку, больш выдаваць папулярных кніг, брашур, каб пра іх ведалі шырокія слаі насельніцтва.

**А. Хацкевіч,** загадчык кафедры гісторыі КПСС БПІ, доктар гістарычных навук, прафесар:

— Згодзен з тымі, хто лічыць нацыянальнае пытанне складаным і драматычным. Тут трэба сказаць аб нацыяналізме (вялікадзяржаўным і мясцовым). У навуковай літаратуры гэтае пытанне распрацавана нядрэнна. Але незалежна ад культу Сталіна, валюнтарызму Хрушчова, застойнага перыяду Брэжнева — Чарненкі, на мой погляд, у некаторых гісторыкаў і літаратараў ёсць неразуменне ленінскага тлумачэння нацыяналізму нацыі прыгнятаючай і нацыі прыгнечанай. Хтосьці думае, што Ленін падтрымліваў нацыяналізм нацыі прыгнечанай. Гэта глыбокая памылка. Ніякага нацыяналізму ён не падтрымліваў, а падтрымліваў агульнадэмакратычны змест, які ёсць у нацыяналізме нацыі прыгнечанай, але не нацыяналізм як такі.

У беларускай гістарыяграфіі пытанне агульнадэмакратычнага зместу мясцовага буржуазнага нацыяналізму і яго дзеячах раскрыта дрэнна. Калі яно будзе вывучана больш глыбока і грунтоўна на канкрэтным мясцовым матэрыяле, тады больш выразна вызначацца прычыны памылак і ваганняў асобных прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Неабходна строга адрозніваць нацыяналістычнае ад нацыянальнага.

Я быў адным з рэдактараў кнігі В. Круталевіча «Рождение Белорусской Советской Республики», у якой гісторыя БНР асветлена, на мой погляд, правільна. На жаль, выхад трэцяй часткі гэтай важнай кнігі чамусьці затрымліваецца. Пытанні станаўлення беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці пасля перамогі Кастрычніка нядрэнна таксама раскрыты ў шматтомнай «Гісторыі БССР», «Очерках истории Компартии Белоруссии» і іншых працах. Безумоўна, у гэтай вялікай і складанай праблеме ёсць і белыя плямы, але яны не звязаны з БНР.

БНР — ілюзорнае, вярхушачнае палітычнае фарміраванне. Для дзяржавы трэба, каб былі,

 

абмежаванасці, не магу ўявіць такога класа ні ў мінулым, ні ў сучасным свеце. І думаю, а ці апалагетам «усекласавасці» не пара спусціцца да агульначалавечага і назваць злачынства злачынствам, подласць подласцю, а не вечна правільнай класавасцю з прыватнымі перагібамі і маральнымі пахібкамі. Такая класавасць без класа—дымавая завеса. На шчасце, ветры перабудовы разганяюць удушлівы чад, які падпускаецца з бункера прыхільнікаў сталінізму.

М. Сташкевіч не спрабуе шукаць прычын і вінаватых, адказных за незаконныя рэпрэсіі, звальвае ўсё на нейкае містычнае наканаванне ці насланнё, называючы яго словам «столкновение». Ён піша: «Гэтае сутыкненне адбылося ў абставінах культа асобы». Што з чым там сутыкнулася, застаецца таямніцай аўтара. Што ж датычыць таго часу, дык ён характарызуецца выбухам беззаконнасці, цёмнай жорсткасці і тэрарызму ў апараце дзяржаўнай улады, а гэта трагізм для ахвяр, а для катаў — злачыннасць. Рэпрэсіі супраць грамадзяніна за яго спосаб думання, а не за варожыя дзеянні, небяспечныя для грамадства,— варварства.

Сёння заканадаўчыя органы ў СССР ствараюць юрыдычныя гарантыі грамадзянскіх свабод, перакрываюць каналы злачыннай самаволі. Думаецца, гісторыя тым і каштоўная, што вучыць на светлым і цёмным вопыце. Самым шкодным з'яўляецца застой у думках, справах і праграмах.

Праўда перабудовы, праўда новага мыслення — у гуманізацыі палітыкі, маралі, права і звычаяў — усіх форм грамадскіх адносін і грамадскай свядомасці ў сучасным свеце.

---

**гаварыў Ленін, тэрыторыя, граніцы, палітычная ўлада. Нічога падобнага ў БНР не было. Залескі сказаў, што ў яе была прэтэнзія на дзяржаўнасць. Але амбіцыі і прэтэнзіі — адно, а рэальныя факты — іншае.**

**Ластоўскі і іншыя арганізатары БНР — палітычныя ўтапісты. Яны самі сышлі з палітычнай арэны, прызналі сваю бездапаможнасць у барацьбе за Беларускую буржуазную рэспубліку, аб чым добра напісаў Сташкевіч у кнізе «Приговор революции».**

**Я падзяляю пункт гледжання Залескага аб тым, што ні адзін з беларускіх нацыяналістаў не заслугоўваў рэпрэсій, прыцягнення да суда за крымінальныя злачынствы, якіх яны не рабілі, у тым ліку і пляменнік (па лініі маці) Якуба Коласа Язэп Лёсік. Магчыма, і персанальную справу Ігнатоўскага, які пакончыў жыццё самагубствам пасля выключэння яго з партыі, трэба перагледзець, яшчэ раз вывучыць усе дакументы, звязаныя з гэтай асобай.**

**Падводзячы вынікі работы «круглага стала», Э. Загарульскі адзначыў:**

**— Гісторыкі падзяргаюцца масіраванаму націску з боку друку, грамадскасці. І, бадай, справядліва. Праведзеная дыскусія дапамагла нам сёе-тое акрэсліць у некаторых важных пытаннях нашай гісторыі. Мне здаецца, вялікіх супярэчнасцей сярод прысутных не было. Былі, праўда, некаторыя адценні ў ацэнцы БНР, але ў цэлым характар яе вызначаны правільна і адназначна. Справядліва таксама адзначалася, што мы павінны ўлічваць сітуацыю не толькі тых гадоў, але і сучаснае наша разуменне гістарычнага працэсу, сучасныя задачы гісторыі. Трэба прытрымлівацца класавых ацэнак гістарычных з'яў. Разам з тым мы павінны адмовіцца ад заганнай практыкі навешвання ярлыкоў дзеячам мінулага і вярнуць гісторыі імёны тых, хто сумленна служыў свайму народу, унёс свой уклад у станаўленне і развіццё нашай дзяржаўнасці, навукі і культуры.**

---

**Выстаўка «Шляхамі бацькаўшчыны» сёлета ў красавіку — маі экспанавалася ў Доме мастацтваў, у чэрвені — у выставачнай зале г. Мазыра, у перспектыве плануецца яе паказ у г. Панявежысе Літоўскай ССР. За плячыма аўтараў прадстаўленых твораў, М. Купавы і Я. Батальёнка, больш як дзесяцігадовы вопыт самастойнай творчай дзейнасці і шмат агульных шляхоў і сцежак, пройдзеных па роднай**

# ПРА МІНУЛАЕ І АДВЕЧНАЕ

## Нататкі з выстаўкі М. Купавы і Я. Батальёнка

**зямлі ў пошуках вобразаў для сваіх работ. Супольна, «у дуэце» яны выстаўляюцца ўпершыню.**

Сумесная выстаўка дазваляе адчуць агульнасць светапогляду пры стылістычнай адметнасці кожнага, па-новаму ўбачыць добра вядомыя творы — тыя, што запомніліся па рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках, што жывуць у аздабленні кніг, неаднаразова рэпрадуцыраваліся на старонках друку. Сваім зместам і значэннем выстаўка нагадвае леташнюю экспазіцыю твораў А. Марачкіна і А. Шатэрніка. Яна дае падставы для асэнсавання не толькі пэўных тэндэнцый выяўленчага мастацтва, але і ў цэлым культурнай сітуацыі ў рэспубліцы. Гістарызм вобразаў, зварот мастакоў да духоўных сімвалаў беларускай гісторыі могуць для гэтага быць даволі аб'ектыўным паказчыкам.

БОЛЬШАСЦЬ работ Міколы Купавы на гэтай выстаўцы зроблена ў 80-я гады. Яны развіваюць кірунак, які выявіўся яшчэ ў першай самастойнай рабоце мастака — ілюстрацыях да паэзіі Цёткі (1975 г.).

Ужо на пачатку творчага шляху вызначылася крэда мастака—служыць сваёй дзейнасцю справе развіцця беларускай культуры, або, як з'едліва гады казалі скептыкі і нядобразычліўцы, — яе «рэанімацыі». Вобраз Цёткі, створаны мастаком, упарта сцвярджаў адухоўленасць, самаахвярнасць служэнню народа, годнасць асобы, якая з'яўляецца носьбітам сваёй нацыянальнай культуры.

У 80-х гадах у беларускую графіку прыходзіць нямала таленавітых мастакоў, але М. Купава па-ранейшаму захоўвае свой высокі аўтарытэт сярод прафесіяналаў і аматараў мастацтва. Яго самы важны прынцып у рабоце—не здзіўляць, а пераконваць. Творы М. Купавы – гэта сінтэз мастацкай і навукова-даследчыцкай працы. Улюбёная тэхніка для яго—дакладны маланак пяром, акварэльнымі фарбамі, кантрастны і ашчадны па выяўленчых сродках лінарыт.

**Сваю творчую канцэпцыю мастак праводзіць у жанры гістарычнага партрэта («Кастусь Каліноўскі», 1977 г., «Ф. Багушэвіч», 1979 г., «В. Каратынскі», 1981 г., «Натхненне. Я. Колас», 1982 г. і г.д.), у гістарычных краявідах («Шляхамі Янкі Купалы. Менск, Вязынка, Вільня», 1980 г., «Альбуць. Родны бераг песняра», 1982—1986 гг., «Друкарня Марціна Кухты», 1982 г., «Гняздо арла. Радзіма героя», 1988 г.), у сімвалічных, алегарычна-фігуратыўных кампазіцыях («Лірыка Я. Купалы», 1982 г., «Партызанская школа», 1984 г., «Крокі ў неўміручасць. Подзвіг Трыфана Лук'яновіча», 1985 г. і інш.). Яго вобразам па-ранейшаму ўласцівы лапідарны рамантызм, што адзначалася мастацтвазнаўцамі яшчэ ў пачатку 80-х гг. Мастак з кожным годам адкрывае гледачам усё новыя гістарычныя вобразы, падзеі, мясціны. Робіць сваю справу нетаропка, асэнсавана, грунтоўна, пры неабходнасці стварае рэканструкцыі па ўспамінах старажылаў, архіўных дакументах.**

Прозвішча М. Купавы часта сустракаецца ў друку ў сувязі з яго актыўнай грамадскай дзейнасцю, публічнымі выступленнямі, наладжваннем выставак з нагоды юбілеяў дзеячаў беларускай культуры, папулярызатарскімі артыкуламі.

Не абыходзілася, вядома, без «маланак» з бюракратычных вяршынь. Шукаць нейкую патаемную крамолу і шкоднасць для нашай палітычнай сістэмы і ў гістарычнай сімволіцы, і ў цэлых пластах нацыянальнай культуры на працягу доўгага часу было, пэўна, любімым заняткам розных забаронщчыкаў. Таму такую насцярожанасць выклікалі ў іх адлюстраванні гістарычнага беларускага герба «Пагоні» і іншых гістарычных сімвалаў і вобразаў, якія абгрунтавана ўжываў мастак у сваіх творах на адпаведную тэматыку.

Зрэшты, хіба не відавочна, што чалавек, які валодае роднай мовай, ведае гісторыю і культуру сваёй радзімы, пагаспадарску ставіцца і да роднай зямлі, беражэ прыроду, валодае імунітэтам супраць бездухоўнасці.

НА ДУМКУ Ягора Батальёнка, родная прырода жывіць самыя высокія гуманістычныя пачуцці. У анкеце «Маладосці» (1987 г., № 6) мастак адзначаў: «У кожнай сваёй рабоце імкнуўся паказаць гармонію, чысціню, святасць прыроды, што павінна абуджаць пачуццё ачышчэння, пошук гармоніі і рытму ў жыцці, так патрэбныя зараз сучаснаму чалавеку».

Яго творчая праграма ўкладаецца ў традыцыйныя параметры пейзажнага жанру. Аднак краявідам Я. Батальёнка ўласцівае не «партрэтнае» адлюстраванне таго ці іншага маляўнічага кутка, мастак імкнецца да збіральнага вобраза, сатканага з ўражанняў ад блізкіх сэрцу мясцін, па якіх неаднойчы даводзілася вандраваць. Найбольш эмацыянальна злучаны мастак у сваіх пейзажах з поўначчу Беларусі.



Я. БАТАЛЬЁНАК. «Старажытныя курганы»

У серыі «Лукомскі край» 1982 г. («Вясна на Сліцкім возеры», «Старадаўнія курганы») разгортваецца панарама зямлі, дзе яшчэ жыве дух першасных, «дагістарычных» часоў. Мастак жадае вярнуць гледача да ўжо легендарнай гармоніі з прыродай. Прырода гэта і ёсць той духоўны пачатак, што звязвае ўсе пакаленні людзей, якія жывуць на зямлі.

**Культ прыроды, незнявечанай, неатручанай, неразрабаванай, адчуваецца ў краявідах з серыі 1980 г. «Наш край» («Рэкі ад самых вытокаў», «Начны абшар», «Па яловых гонях коні пасуцца»), у серыі 1984 г. «Родны край» («Курган. «Адвечны спакой», «Жнівеньскі матыў», «Восеньскі вечар» і інш.). Каб выявіць настрой пазачасавасці, адвечнасці, мастак пазбягае прыкмет урбанізацыі. Чалавечая прысутнасць — у плёне працы хлебароба, сціртах, каласуючым збожжы. Калі зрэдку і ўзнікае чалавечая постаць, дык яна пазбаўлена характэрных прыкмет сучаснасці. Чалавек не царуе ў прыродзе, не «пераўтварае» яе, ён проста прысутнічае як частка прыроды.**

Пастэллю, акварэллю, зрэдку алейнымі фарбамі мастак вельмі далікатна і артыстычна перадае стрыманы, часам пахмурны беларускі каларыт. Праз колеравую вытанчанасць ствараецца задуменны настрой пейзажаў, якія мы зберагаем у сваёй памяці. Колькі жывых струн, успамінаў дзяцінства абуджаюць яны ў душы, калі глядач трапляе ў свет вобразаў мастака пасля гарадской мітусні.

Карціны Я. Батальёнка разлічаны на хатні інтэр'ер, на канцэнтраванае ўспрыманне. Яны спрыяюць выхаванню пачуцця духоўнай еднасці з родным краем. Такая іх звышзадача, якую мастак імкнецца дасягнуць у кожнай сваёй рабоце — ад панарамных далягляду да міні-акварэляў (напрыклад, цыкл «Восень», 1979—1983 гг.).

Творчая праца мастака спалучаецца з выкладчыцкай і грамадскай дзейнасцю. Ужо больш дзесяці год ён выкладае ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. В. Ахрэмчыка. Як мастак і выкладчык Я. Батальёнак слушна лічыць, што працэс навучання музыцы і мастацтву не можа быць ізаляваны ад ведання роднай мовы, культуры, пастаяннага кантакту з прыродай. Таму ён прыклаў вялікія намаганні разам з іншымі сваімі калегамі па рабоце, каб дамагчыся паступовага пераводу школы на беларускую мову навучання, не зважаючы на «аб'ектыўныя прычыны» ці, інакш кажучы, чыноўнае нежаданне нічога зрушыць з мёртвай кропкі.

Выстаўка твораў М. Купавы і Я. Батальёнка не стала сенсацыяй у культурным жыцці сталіцы і рэспублікі, не пабіла рэкордаў па колькасці наведвальнікаў. Яна разлічана на свядомага, духоўна падрыхтаванага гледача, які ў мастацтве не шукае экзатычнай эклектыкі, сенсацыі дзеля сенсацыі, але імкнецца знайсці адбітак сваіх думак пра лёс радзімы, разабрацца ў яе гісторыі, жадае адчуць сябе спадкаемцам вялікага духоўнага побыту беларусаў. Такі глядач яшчэ не ставарае большасці, але ён ёсць. І гэта дорыць добрыя спадзяванні на будучыню.

**Яўген ШУНЕЙКА.**



М. КУПАВА. «Крокі ў неўміручасць. Подзвіг Трыфана Лук'яновіча»



 

**НАДРУКАВАНА Ў «ПОЛЫМІ»**

# ТРЭБА ЧЫТАЦЬ!

Час абнаўлення, галоснасці, як вядома, надзвычай плённа паўплываў на змест часопісаў. Не выключэнне ў гэтым сэнсе і «Полымя». Асабліва вылучаецца шосты нумар. Чытача, без сумнення, зацікавяць апавяданне А. Кудраўца «Пахахуцікі», нізка паэзіі Г. Бураўкіна «Брагінская вясна-1986», фантастычна-дакументальная прыпавесць (аўтарскае вызначэнне жанру) У. Някляева «Вежа», літаратурна-крытычны «сшытак», у якім найперш прыцягваюць увагу артыкулы П. Дзюбайлы «У пошуках героя» і Г. Шупенькі «Шукаць і знаходзіць» (па-свойму палемічныя), і рэцэнзія Э. Іофе на дакументальную аповесць Э. Ялугіна «Пасля небыцця», змешчаную ў «Нёмане». (Аддзел крытыкі і літаратуразнаўства хочацца проста павіншаваць, бо даўно не практыкавалася ў нас, каб адзін «тоўсты» часопіс аператыўна адгукаўся на публікацыю другога «тоўстага» часопіса).

На фоне ўсіх гэтых публікацый, што сведчаць аб высокай патрабавальнасці рэдакцыі да матэрыялаў, якім даецца «зялёная вуліца», асабліва вылучаюцца тры. З першым сутыкаешся адразу, ледзь толькі адкрываеш нумар. «З таго берага», дзе была няўпэўненасць у заўтрашнім дні і дзе прайшлі ажно дваццаць яго гадоў жыцця, вядзе свой драматычны рэпартаж А. Звонак. Пад творамі дзве даты: «1939—1987». Колькі мужнасці і пакут, роздуму ўмяшчаюць гэтыя даты для аўтара! Напісанае болем вяртаецца да чытача, каб застацца назаўсёды ў літаратуры і ў памяці народа таксама. Як мастацкае сведчанне аднаго з самых крывавых момантаў у нашай гісторыі. Як споведзь чалавечай душы, збалелай па даверу, адкрытасці, узаемаразуменню і звычайнай чалавечнасці. Дарэчы, адзін з вершаў А. Звонака так і называецца — «Спавядальнае». Балюча яго чытаць, хоць бы гэтае прызнанне: «...Ах, як добра, што вышку не схапіў я тады!» Праз колькі старонак боль гэты падвоіцца, патроіцца, бо будзе расказана такое, пра што нават падумаць страшна («Сага аб каханні». «Лёшка Пеплаў «Тэрарыст»). Каб пад кожным з гэтых вершаў не стаялі падзагалоўкі — «Сіблагаўская быль», «Калымская быль» — не ва ўсё паверыў бы...

Працягваецца вяртанне творчай спадчыны А. Гаруна. Рупліўцам тут па-ранейшаму выступае У. Казбярук. На гэты раз ён прапануе чытацкай увазе пераважную большасць таго, што напісана выдатным пісьменнікам у галіне прозы. Прапануе са сваёй грунтоўнай прадмовай, у якой здолеў схапіць найбольш істотнае ў творчасці Гаруна-празаіка, якая «надзейна апіралася на нацыянальныя традыцыі літаратурнага і бытавога апавядання. Але адначасова яна неабмежавана расшырала рамкі традыцыйных формаў вобразнасці мастацкага, стылю, кампазіцыі».

Хацелася б дадаць да вышэй сказанага, што думкі А. Гаруна ў апавяданнях «Пан Шабуневіч» і «Свята» сугучныя таму зацікаўленаму стаўленню да роднай мовы, якое ў нашы дні набыло новы ўздым. З сімпатыяй, замілаваннем расказвае герой-апавядальнік пра свайго знаёмага Шабуневіча, што ў самых неспрыяльных умовах не выракся матчынага слова. Адначасова гаворыць аб гэтым з трывогай, бо бачыць: «Беларускую мову яшчэ раз выкасавалі з ліку родных моў: напісалі, што роднай мовай маіх дзяцей (бо я не пакідаю надзеі ажаніцца) павінна быць ці польская, ці расейская, ці жыдоўская, ці літоўская, ці іншая. Чаму ж яшчэ не прылучылі французскай, нямецкай, японскай, не ведаю. Усё ж нічога сабе мовы».

А як хораша перадае пісьменнік душэўны стан свайго героя (Грыневіч, па ўсім відаць, персанаж у нечым аўтабіяграфічны), калі той нечакана для самога сябе ў сібірскай глушы, на сваіх катаржных дарогах, знаходзіць «родную душу». У «страшнай сібірскай самоце» прыходзіць сапраўднае свята: «Бабка гаварыла па-беларуску! Словы, якімі яна зрабіла свой адказ нявестцы, звінелі, як тыя, каторымі ён думаў. Адкуль тут яго родная мова?». Як высветлілася, старэнькая бабулька — родная сястра яго бабулі, пра лёс якой Грыневіч так доўга нічога не ведаў.

Чарговае вяртанне спадчыны А. Гаруна і адначасова вяртанне да вытокаў, дакранае да самага святога, што ўспрымаеш як духоўнае і маральнае ачышчэнне. Гэтае ачышчэнне ад друзу неабавязковых клопатаў, усяго другаснага і выпадковага перажываеш, калі знаёмішся і са старонкамі дзённіка В. Бечыка «Радкі і жыццё». (У нумары пачатак публікацыі. К слову, з асобнымі запісамі пісьменніка «для сябе» пазнаёміў чытачоў у свой час і «ЛіМ».) «...З гэтых скупых запісаў перад намі паўстае жывы і непаўторны чалавек: разумны, глыбока адукаваны, прагны да жыцця, праўды, кніг і шчырага сяброўства», — піша у невялікай прадмове да публікацыі П. Панчанка.

Дадаць можна хіба тое, што ў гэтых бечыкаўскіх нататках, якія, безумоўна, аўтар не разлічваў друкаваць, частка яго душы, яго сумлення. Нешта падобнае ён сам сказаў, трымаючы ў руках пасмяротна выдадзеную кнігу прозы свайго сябра Ігара Хадановіча: «Тут, у кніжцы, — частка маёй душы, майго сумлення».

Душа В. Бечыка раскрываецца чытачу разнасцежна. Цалкам ацаніць значнасць публікацыі, зразумела, можна будзе пасля поўнага знаёмства з ёй, але ўжо і цяпер бачна, наколькі В. Бечык улюбёны ў роднае слова, як адчуваў яго хараство, як шчыра радаваўся кожнаму больш-менш значнаму адкрыццю ў літаратуры і як не прымаў падробак пад яе. У гэтых меркаваннях ёсць і штосьці суб'ектыўнае, не без таго — але ж які гэта дзённік, калі адсутнічае менавіта сваё ўспрыманне жыцця, бачанне людзей?!

...Словы на завяршэнне? Трэба чытаць шосты нумар «Полымя». Ён шмат дае і душы, і сэрцу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# Калі ты чалавек тэатра

**Групавы партрэт выпускнікоў акцёрскага аддзялення БДТМІ**

Сёлетніх выпускнікоў БДТМІ — кожнага паасобку і ўсіх разам — у дыпломных спектаклях можна было б ацаніць досыць крытычна. Але, думаецца, суровай крытыкі ім ужо нядоўга чакаць засталося...

Я сама некалі праходзіла гэтым няпростым шляхам — са студэнтаў у прафесійныя акцёры і добра памятаю, як нядоўга мы, пачаткоўцы, былі ў тэатры вучнямі і малодшымі таварышамі. Нас адразу прымалі як калег, а то і як сапернікаў. Нашу падрыхтаванасць да творчага жыцця выяўлялі адразу і без паблажлівасці, хоць і тактоўна, хоць і добразычліва. Вось і спектаклі сёлетніх выпускнікоў я таксама глядзела праз прызму свайго прафесійнага вопыту.

...Прамень тэатральнага сафіта вырывае з цемры твары акцёраў, адкідаючы ўглыб сцэны цені. На адным дыханні разгортваецца дзея спектакля «13-ая» Г. Прыедэ (пастаноўка В. Катавіцкага). Праблема, якой ён прысвечаны, нарадзілася разам з рок-музыкай: як разумець яе, як успрымаць? Асноўную сэнсавую нагрузку спектакля нясе роля крытыка Аніты Сандорэ, з якою Юлія Рабаконь упраўляецца ўпэўнена дзякуючы свайму ўменню арыгінальна мысліць.

Юля — адна з найбольш сталых студэнтак курса. Ужо сёння яна можа спрабаваць сябе ў ролях, якія звычайна акцёры ў тэатры атрымліваюць толькі з гадамі. Вось і Аніта Сандорэ ў яе выкананні — разумная, годная, прыстойная жанчына з даволі драматычным лёсам. За ганарлівай незалежнасцю яна хавае ранімую душу; нават прафесія крытыка для Аніты — своеасаблівы спосаб самаабароны. Яна неяк «адцягнена» існуе сярод людзей, аддае перавагу «глухаце і невідушчасці» — так прасцей. І толькі пасля сустрэчы з маладым паэтам і кампазітарам Юлісам (Г. Волчак) яна зробіць намаганне разабрацца ў сабе... Ясна адно: такой, якой была, яна больш не будзе, хоць прасцей жыць ёй праз гэта не стане. Хутчэй наадварот.

**Ю. Рабаконь у інстытут прыйшла ўжо склаўшымся чалавекам, добра папрацаваўшы (у аўтаклубе стварыла агітбрыгаду) і атрымаўшы «благаславенне» дзядулі, народнага артыста БССР А. М. Труса, акцёра-коласаўца. У самадзейнасці, праўда, ніколі не брала ўдзелу, але заўсёды спявала. На жаль, у ролі Аніты ёй давялося толькі слухаць сваіх партнёраў — Г. Волчака і В. Богук, якія таксама вельмі здатныя да музыкі. Дый спектакль гэты, паводле прызнання рэжысёра, узнік таму, што знайшоўся на курсе чалавек, які валодае некалькімі музычнымі інструментамі і сам сачыняе песні. Георгій Волчак (а гэта ён) скончыў два курсы Брэсцкага музычнага вучылішча, папрацаваў у Брэсцкім аблдрамтэатры, дзе спрабаваў выступаць у маленькіх ролях. Вобраз маладога кампазітара і паэта Юліса яму вельмі імпануе. Мо таму так арганічна існуе Георгій у гэтай ролі? «Ён хвацкі, унутрана рухомы, але мала ведае жыццё, дый акцёрскай мудрасці, вядома, нестае», — лічыць рэжысёр В. Катавіцкі, якому малады акцёр ва ўсім дае веры. Даныя ягонай індывідуальнасці сведчаць, што ў будучым ён можа зрабіцца акцёрам шырокага дыяпазону.**

Разам з Георгіем цікава працуе і Валерыя Богук. Ад далікатных паўтонаў да вострага гратэску — такая яе акцёрская палітра. Яна валодае своеасаблівай акцёрскай заразлівасцю і мае добры тэмперамент. І Валерыя, і яе партнёр няблага рухаюцца ў спектаклі — вынік доўгіх трэніровак і заняткаў пластыкай, якія праводзіў рэжысёр Катавіцкі. Такім чынам, са шматлікіх кампанентаў — музыкі, танцаў, пластыкі і г. д. выбудоўваецца займальная дзея спектакля, які вымагае роздуму над складанасцю нараджэння і пасталення мастака, над неабходнасцю даверу маладым і асцярожнасці ў ацэнках творчасці.

У спектаклі «Цыліндр» паводле Э. дэ Філіпа (рэжысёр У. Забела) кожны з герояў абаяльна... амаральны — па-свойму. Да прыкрасці і агіды. Ігар Фільчанкоў пераканаўча стварае вобраз заможнага чалавека, якога так скаланула смерць жонкі, што ён на пэўны час згубіў здольнасць быць мужчынам. Фільчанкоў пазбаўляе свайго героя прасталінейнасці, адназначнасці, а ягоная глыбіня і лірызм толькі падкрэсліваюць няздольнасць героя разумець іншых так, як ён разумее самога сябе.

У драматычныя артысты Ігара прывяла мара быць клоўнам, а паспрыялі мары ўнутраная інтэлігентнасць, добрая эмацыянальнасць і здаровы рацыяналізм. Ну, а лёгкасць і нязмушанасць абавязкова мусяць прыйсці, таму што ёсць любоў да працы і прафесіі.

У спектаклі ярка выявіліся здольнасці і Алены Унукавай (на вялікі жаль, у ролі Іскры ў спектаклі «Заўтра была вайна» паводле Б. Васільева Алена не пайшла далей арганічнага існавання ў прапанаваных абставінах). Роля Рыты, жонкі бедака і небаракі Радольфа; Рыты, якая вярнула да чалавечага жыцця Анцііліа, сыграна ёю ярка, дынамічна, дасціпна, з поўнай адсутнасцю манатоннасці, якая ў пэўнай меры была ўласціва ўсім іншым ролям (гэта не датычыць мастацкага чытання, якім Алена валодае на сённяшні дзень бездакорна). Някідкая знешне, Алена на сцэне вельмі абаяльная і прывабная. Нязмушанасць і прыродны артыстызм, якія звычайна больш поўна раскрываюцца ў прафесійным тэатры, дапамогуць Алене сфарміравацца ў моцную і добрую актрысу.

Добра, што многія з выпускнікоў досыць самакрытычныя і цвяроза ацэньваюць свае прафесійныя здольнасці і магчымасці. Ігар Карповіч — пры тым, што ўсе аднагалосна адзначаюць ягоную надзвычайную працаздольнасць—можа, і завельмі патрабавальны да сябе. Лічыць, што яму бракуе сілы волі, калі-нікалі такту ў адносінах з людзьмі, пераканаўчасці ў адстойванні свайго пункту гледжання. Рэжысёры-педагогі адзначаюць, што з ім цікава працаваць: «Ігар мысліць парадаксальна». Ягонай творчай індывідуальнасці ўласціва такая якасць — няма пераходаў ад «ціхага» стану да эмацыянальнага, выбуховага, тэмпераментнага, хоць часцяком праз гэта яго ігра на сцэне выглядае вельмі эфектна. У «Цыліндры», да прыкладу, ягоны Радольфа ў самы трагічны момант (ён, фактычна, прадаў сваю жонку) — пасля бурнага высвятлення адносін — гранічна спакойна заўважае: «Пайду пакуру». Нешта падобнае — і ў «Залётах» А. Дуніна-Марцінкевіча: «Павешуся, павешуся!» і праз хвіліну: «Жартую, жартую».

Віктару Моўчану таксама трэба «паразумецца» са сваёю акцёрскай прыродай. Ён настолькі натуральна выглядае на сцэне без «спецыяльных» эфектаў, «зададзеных» паводзін, што калі намагаецца «іграць», дык парушае нейкім чынам прыроду свайго даравання. «Ігару пакуль нестае правільнага адчування самога сябе», — заўважаюць педагогі.

Барыс Лагода ў ролі Сабковіча ў «Залётах» В. Дуніна-Марцінкевіча выявіў здольнасць да хуткага пераўвасаблення, імправізацыі; вядома, яму пакуль нестае ўласна акцёрскай тэхнікі, але, паўтаруся, тут справа за прафесійнай сцэнай.

**Акрамя дыпломных спектакляў, студэнты дэманстравалі свае здольнасці ў канцэрце, якім і завяршыліся дзяржаўныя экзамены: пад сяброўскія апладысменты будучых калег, якія разам з гледачамі закідалі сцэну кветкамі, і пад музыку іх маленькага студэнцкага аркестрыка...**

На жаль, не ажыццявілася ідэя стварэння пад кіраўніцтвам В. Катавіцкага маладзёжнага тэатра ў Гродне на базе гэтага курса. Прычын шмат, але хто ведае, як бы склаўся лёс маладых людзей з рэжысёрам-пачаткоўцам на чале. Але добрым вынікам можна лічыць узаемапавагу, узаемадапамогу і добразычлівасць, якія выхаваў на сваім курсе А. Бутакоў. А гэта не так і мала — дастаткова згадаць, як некаторыя пачаткоўцы аддаюць перавагу закулісным «змаганням» перад сумленнай працаю на сцэне. Так, сёлетнія выпускнікі пойдуць у тэатр не разам, але галоўнае — ніхто з іх не застаўся па-за тэатрам. Як бы ні склаўся акцёрскі лёс, як бы сёння ні быў ацэнены крытыкаю малады акцёр, а заўтра — абыдзены ёю ўвогуле, важна, каб ён памятаў самае галоўнае: ты — чалавек тэатра.

І няхай спраўдзіцца іх акцёрскі лёс!

**Таццяна ВІНАГРАДАВА,**
**актрыса Маладзёжнага тэатра БССР.**



«Залёты» В. Дуніна-Марцінкевіча. Сцэна са спектакля.
Фота Ул. КРУКА.



«13-ая» Г. Прыедэ. Бэла (В. Богук). Юліс (Г. Волчак).
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

 

ГАСТРОЛЬНАЕ ЛЕТА

# МАЛАДЗЁЖНЫ З ЛЕНІНГРАДА

**1 жніўня на сцэне Палаца культуры і спорту імя Ільіча адкрываюцца гастролі Ленінградскага Маладзёжнага тэатра на Фантанцы**

Для першага знаёмства са сталіцай Беларусі мы выбралі восем спектакляў, якія даюць магчымасць не толькі прадставіць увесь калектыў тэатра, а і паказаць усю шматстайнасць яго творчых магчымасцей.

Мы адкрываем нашы гастролі спектаклем, прысвечаным 40-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Ён распавядае пра подзвіг артыстаў ваеннага часу, якія выконвалі свой абавязак ў тыле і на самых гарачых участках фронту, у ваенных шпіталях, на прызыўных участках, у блакадным Ленінградзе...

Ідэя стварэння спектакля «Гучала музыка ў садзе» ўзнікла ў нас, калі мы звярнуліся да мінулага Ізмайлаўскага саду, на тэрыторыі якога знаходзіцца наш Маладзёжны тэатр. Некалі тут сапраўды гучала музыка — менавіта тут знаходзіўся адзін з лепшых тэатраў-вар'етэ Пецярбурга «Летні Буф», у канцэртах якога выступалі першакласныя рускія і замежныя артысты, а пасля заканчэння праграмы ўсю ноч працягваліся танцы пад духавы аркестр. Спектакль «Гучала музыка ў садзе» — быццам зварот да гісторыі рускай і савецкай эстрады. Аднак гэта не проста канцэртнае прадстаўленне, чаргаванне нумароў лёгкага жанру. Тэатр прыадчыняе жыццё куліс, часта не такое лёгкае і святочнае, якім яно ўяўляецца гледачам.

Дваццаць гадоў не аціхаюць спрэчкі вакол Зілава, героя «Палявання на качак», самай «неразгаданай» п'есы А. Вампілава. Ці ўдалося нашаму тэатру знайсці дакладны сцэнічны ключ да п'есы, вырашыць схаваныя ў ёй загадкі — меркаваць гледачам.

«Пяць кутоў» С. Какоўкіна — гэта аповяд пра пяць лёсаў, пяць чалавечых драм, аб прызначэнні чалавека, яго вернасці сваім прынцыпам, свайму таленту, мары.

У нашы дні, калі так павысілася цікавасць да мінулага, узнікла патрэба больш пільна і глыбока яго асэнсаваць, мы вырашылі звярнуцца да ранняй аповесці В. Астаф'ева «Крадзёж», якая прывабіла нас перш за ўсё сваім высокім гуманізмам; думкай, якая стала для нас асноўнай, аб тым, што ў любых, самых жорсткіх і, здавалася б, нечалавечых умовах чалавек павінен заставацца чалавекам, шанаваць вышэйшыя законы справядлівасці, дабра, гонару. Гэты спектакль, як і спектакль «Дах» па п'есе А. Галіна, звернуты перш за ўсё да моладзі, хоць у нашым родным горадзе яго з аднолькавай цікавасцю глядзяць гледачы ўсіх узростаў.

«Дарога на Літл-Дот» — спектакль паводле аповесці вядомага амерыканскага пісьменніка Джона Стэйнбэка «Пра мышэй і людзей», дае нам магчымасць расказаць пра неабароненасць чалавека перад тварам фальшу, хлусні, жорсткасці ў свеце, які разбурае спадзяванні і мары, заганяе чалавека ў кут, так што адзіным і лепшым выйсцем аказваецца толькі смерць.

Гэтыя спектаклі Маладзёжны тэатр пакажа ў Мінску. Мы б моцна жадалі, каб сустрэчы на беларускай зямлі прынеслі і гледачам, і артыстам ўзаемную радасць творчай сувязі.

Л. КОРАБАВА,
загадчык літаратурнай часткі тэатра.



«Гучала музыка ў садзе». Сцэна са спектакля.
Фота Ю. ШЧЭНІКАВА.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА... БЕЗ ЭТЫКІ?

**Адбылося чарговае пасяджэнне секцыі нарыса і публіцыстыкі СП БССР, на якім былі абмеркаваны кніга А. Казловіча «На моей ладони линия реки» (Мн., 1987) і артыкул Я. Будзінаса «Дилетанты» против «профессоров»? («Советская Белоруссия», 13 мая 1988 г.).**

**Разгорнуты аналіз кнігі А. Казловіча і артыкула Я. Будзінаса зрабіла старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР А. Лысенка. Яна адзначыла, што факты адмоўных уплываў меліярацыі на прыроду, прыведзеныя ў кнізе А. Казловіча, не аднясеш, як імкнецца гэта зрабіць Будзінас, да «эмоцый», перабольшванняў, іх можна ўбачыць на свае вочы, пра іх пішуць і вучоныя, ды і самі меліяратары. Нельга, на думку даследчыцы, ігнараваць, а тым больш высмейваць народны погляд на прыроду, проціпастаўляючы яго «прафесарскаму», як гэта робіць Будзінас. Бо, у рэшце рэшт, увесь народ — «дылетант», але ў выніку заўсёды выяўляецца правільнасць і дальнабачнасць менавіта народнага погляду на прыроду, на зямлю. З пазіцый публіцыста ў гэтым артыкуле, заўважыла А. Лысенка, я не згодна: многія яго закіды да апанента не па сутнасці.**

**І. Новікаў, П. Місько, В. Мыслівец, Г. Колас, Т. Чабан, В. Якавенка і інш., адзначаючы грамадзянскі пафас кнігі А. Казловіча, яе добры мастацкі ўзровень, указваючы на пэўныя недахопы, прыйшлі да вываду, што гэта адна з лепшых кніг у сучаснай публіцыстыцы. Звяртаючыся да артыкула Я. Будзінаса, прамоўцы канстатавалі, што палеміка, як нармальная з'ява ў літаратуры, часам, на жаль, прымае характар звядзення рахункаў, навешвання ярлыкоў. У гэтым сэнсе звяртае на сябе ўвагу зняважлівы, фельетонны тон артыкула Я. Будзінаса, пабудаванага на слоўнай эквілібрыстыцы, перакручванні і давядзенні да абсурду думак апанента.**

**Выступілі таксама былы сакратар Бярозаўскага райкома партыі П. Л. Лебедзеў і супрацоўнік НДІ меліярацыі і воднай гаспадаркі Л. В. Шацько. Яны добра ведаюць па рабоце героя нарыса А. Казловіча «Пазіцыя» С. Г. Скарапанава — як вучонага, як былога міністра сельскай гаспадаркі БССР. Яны падкрэслілі, што гэты чалавек, які меў здольнасць мяняць навуковыя погляды ў залежнасці ад сацыяльнага моманту, далёка не адпавядае сусальнаму партрэту, намаляванаму ў артыкуле Я. Будзінаса.**

**Прысутныя былі азнаёмлены з лістамі ў СП БССР супрацоўнікаў НДІ меліярацыі Л. В. Шацько і Д. М. Дземідзенкі, з якіх вынікае, што артыкул Я. Будзінаса напісаны з кан'юнктурных меркаванняў, паколькі яго жонка працуе ў лабараторыі Скарапанава і пад яго кіраўніцтвам рыхтуе да абароны дысертацыю. Сам Будзінас не адмаўляў гэтага і іншых фактаў, але не ставіў іх у сувязь з артыкулам. «Этычная пазіцыя — адно, літаратура — другое», — сказаў ён.**

**Каментарыі тут, як кажуць, не патрэбны.**

НАШ СПЕЦКОР.

МУЗЫКА

# ТВОР, ВЫКАНАЎЦА, СЛУХАЧ...

ІДЗЕ ЛЕТА. Але ўсё яшчэ не аціхаюць спрэчкі пра фестываль «Мінская вясна», пра яго праблемы, пра шляхі іх вырашэння. А значыць — ідзе падрыхтоўка да наступнай «Вясны».

Зразумела, было б недарэчным шукаць нейкі адзіны агульны пункт погляду на фестываль. Яго праблемы востра абмяркоўваліся і ў глядзельнай зале, і за кулісамі, і на сустрэчах у Саюзе кампазітараў...

Уявім сабе, напрыклад, пункт погляду слухача. Як вядома ўсім — і прафесіяналам і непрафесіяналам, — слухач «галасуе нагамі». Сталі ўжо рытуальна-традыцыйнымі нараканні на спад цікавасці да сур'ёзнай музыкі, на страту слухацкай аўдыторыі і г. д. Але вось — адна асаблівасць «Мінскай вясны», на якую, здаецца, ніхто не звярнуў увагі. Так, канцэрты збіралі розную па колькасці аўдыторыю, часам розніца гэтая была велізарная, але на ніводным канцэрце слухачы не «галасавалі нагамі». А гэта значыць, што на кожны канцэрт людзі прыходзілі, каб слухаць менавіта гэтую музыку, з жаданнем пачуць новае, разабрацца і параўнаць.

Былі канцэрты-лідэры, якія сабралі поўныя залы: гэта канцэрты Маладзёжнага камернага хору пад кіраўніцтвам І. Мацюхова і Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Гарачая зацікаўленасць і эмацыянальнасць аўдыторыі, увага да ўсіх прадстаўленых музычных твораў — і знаёмых і прэм'ерных — факт радасны. Слухацкі поспех абодвух канцэртаў сведчыць пра шырокую ўвагу сталічнай публікі і да вялікай эстрады, і да харавога жанру. Перад харавым канцэртам у зале нават было неспакойна: гэта публіка, якая купіла білеты ў партэр, выцясняла «зайцаў», якія набеглі загадзя. (Дарэчы, пра «зайцаў». Сёлетняя «Мінская вясна» ў нейкім сэнсе іх узаконіла — мастацкі кіраўнік філармоніі Ю. Гільдзюк дазволіў студэнтам Мінскага музычнага вучылішча свабодны ўваход на ўсе канцэрты. І гэтыя дзевяць філарманічных вечароў вельмі многае далі будучым музыказнаўцам і выканаўцам. Самі навучэнцы і іх выхавацелі спадзяюцца, што такая прывілея стане нашай добрай фестывальнай традыцыяй).

Адзначу, што і на больш складаных, якія вымагаюць прафесійнай падрыхтоўкі, канцэртах сімфанічнай і камернай музыкі, дзе былі паказаны розныя творчыя накірункі і індывідуальнасці, шырыня жанравых інтарэсаў кампазітараў розных рэспублік, — рэакцыя слухачоў была чуйнай, дакладнай і шматстайнай.

І вось другі пункт погляду. Выканаўца.

Асноўны аб'ём выканаўчай работы выпаў — і гэта заканамерна — на долю беларускіх калектываў і салістаў. І яны з гонарам справіліся з гэтай адказнай і вельмі працаёмкай задачай, пры тым, што большасць твораў, якія гучалі, былі прэм'ернымі. Прафесіянал цудоўна разумее, наколькі больш складанай творчай задачай з'яўляецца выкананне незнаёмай музыкі. Калі работа над класічным творам заўсёды грунтуецца на пэўным слыхавым вопыце, на традыцыях выканання музыкі аўтарытэтнага аўтара, дык інтэрпрэтацыя новай музыкі — гэта заўсёды сааўтарства ў першакрыніцы, а яшчэ — неспадзяваная рэакцыя аўдыторыі. Выканаўца новага твора дзеліць з аўтарам у роўнай меры і цяжкую працу творчасці, і радасць адкрыцця, і горыч няўдачы.

**Сёлета кампазітары далі магчымасць выканаўцам праявіць сябе вельмі разнапланава. У інструментальнай сольнай музыцы бліскуча выступілі салісты А. Прыходзька і М. Крывашэеў — у арыгінальных камерных творах Л. Шлег (Сюіта для габоя сола і Саната для кантрабаса). Яшчэ адно яркае ўражанне — малады харавы калектыў «Камерата» пад кіраўніцтвам А. Шыкунова з сапраўды духоўным настроем выканаў у аўтарскім канцэрце Л. Шлег кантату «Скарбонка мінулага». Выступленне «Камераты» яшчэ раз пераканала музычную грамадскасць, што на харавой ніве рэспублікі рунеюць усё новыя таленты, здатныя да сапраўды творчай канкурэнцыі. І сёння проста неабходна, каб прагнае імкненне публікі на нячастыя ў нас харавыя канцэрты і не менш прагнае імкненне харавой моладзі часцей выступаць перад аўдыторыяй знаходзілі самую надзейную падтрымку ў музычнай адміністрацыі. Сам час гэтага вымагае. Цікавыя задачы ў вакальна-аркестравых творах былі зададзены нашым вядучым вакалістам — Л. Колас і М. Маісеенку. Сучасныя кампазітары, як вядома, не вельмі ахоўваюць натуральныя магчымасці чалавечага голасу, і хоць ні А. Залётнеў (Канцэрт для голасу і камернага аркестра), ні Д. Смольскі («Песня апошняга трубадура») не ўхіліліся ад гэтай асаблівасці ў асобных фрагментах сваіх твораў, вакалісты былі на належнай вышыні прафесіяналізму.**

Ёсць такі цэхавы жарт, калі артыст раіць кампазітару самому выканаць тое, што той напісаў, і пры гэтым з'едліва ўсміхаецца. Але вось выкананне Людмілай Шлег свайго новага цыкла «Жніўныя песні» для меца-сапрана і фартэпіяна стала адной з самых уражлівых падзей яе аўтарскага канцэрта. Не так ужо часта ў жанры камернай вакальнай музыкі можна пачуць аўтара і выканаўцу ў адным абліччы, калі спалучаюцца талент кампазітара і цудоўнае артыстычнае выкананне.

Трэці пункт погляду — кампазітарскі. Напэўна, чым больш музыкі прагучыць, тым больш поўнае і аб'ёмнае будзе наша ўяўленне пра стан і развіццё беларускай музычнай культуры ў цэлым. Ды, пэўна, галоўнае — даваць магчымасць нашым кампазітарам так шырока выказвацца не ад пленума да пленума і не ад «Вясны» да «Вясны», а часцей і геаграфічна шырэй. Тады, відаць, ніхто ўжо не дасць веры такой, напрыклад, безадказнай заяве: «У нас няма твораў, якія мы маглі б прадставіць на саюзным або міжнародным узроўні!»

Напэўна, было б значна больш карысці і кампазітарам, і ўсёй нашай культуры, калі б «Мінскай вясне» як выніку творчага года папярэднічала б рэгулярнае і планамернае выкананне ці хоць бы рабочае праслухоўванне новай музыкі на працягу ўсяго года, а не ад выпадку да выпадку ці ў выніку раптоўна ўтворанай «дзіркі» ў канцэртным графіку. Саюз кампазітараў мог бы больш актыўна развіваць кантакты з арганізацыямі і творчымі калектывамі іншых рэспублік, знаёміць іх з новымі творамі беларускіх кампазітараў — хоць бы рассылаючы ім рэгулярна ноты! У выніку можна было б запрашаць на «Мінскую вясну» цікавыя калектывы і салістаў, у рэпертуары якіх з'явіцца новая беларуская музыка. Гэта толькі адзін шлях далейшага ўзбагачэння нашага фестывалю і адначасова прапаганды беларускай музыкі. Але гэта трэба рабіць, і тады не толькі наша музычная грамадскасць атрымае магчымасць, як сёлета, параўнаць і пераканацца: нам ёсць што прадставіць «і дома і ў гасцях», але і ў вачах нашых калег у іншых рэспубліках мы паступова перастанем быць «правінцыяй».

Хацелася б пажадаць нашым кампазітарам увогуле больш годнасці і самапавагі. Бо часам справа даходзіць да парадоксаў, калі беларуская музыка атрымлівае высокую ацэнку на пленуме праўлення Саюза кампазітараў СССР у Кемераве («Янка Купала» В. Помазава), — а з трыбуны рэспубліканскага кампазітарскага пленума гучыць згаданая вышэй безадказная фраза.

**Яшчэ адзін, вельмі важны штрых мінулай «Вясны» — магчымасць рэальнага параўнання беларускай музыкі з творчасцю кампазітараў з розных рэспублік, параўнання і высноў на падставе пачутага. І музыка нашых кампазітараў аказалася досыць канкурэнтаздольнай! Не ўся, вядома, але гэта ўжо зноў пытанне адбору, актыўнай работы па выкананні, праслухоўванні і ацэнцы новых твораў беларускіх кампазітараў, работы, якую павінен весці саюз разам з выканаўчымі арганізацыямі на працягу ўсяго года.**

**Відавочна, пра ўсё за адным разам не скажаш. Вось, напрыклад, на выніковай дыскусіі фестывалю наша музыказнаўства падвергнуў сур'ёзнай і, трэба прызнаць, абгрунтаванай крытыцы Д. Смольскі. Яго аўтарытэтнае і эмацыянальнае выказванне, напэўна, дасць спажыву для роздуму і вядучым музыказнаўцам рэспублікі, і моладзі. Мае рацыю Д. Смольскі: музыка беларускіх кампазітараў вымагае больш зацікаўленай увагі крытыкаў, непрадузятай і кампетэнтнай ацэнкі.**

**Можна было пагаварыць і аб праблеме росту кампазітарскай моладзі...**

Дарэчы, калі фестываль ужо завяршыўся, у нашым музычным жыцці адбылася досыць адметная падзея: упершыню за шмат гадоў студэнты аддзялення кампазіцыі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі пачулі свае творы ў выкананні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР. Старэйшыя з іх паказалі музыку шырокага жанравага дыяпазону: У. Бабкоў — Сімфонію, І. Палівода — Кантату для хору і аркестра «Слова», А. Давідоўская — сімфанічную паэму «Споведзь гукаў», а трэцякурснікі М. Калешка, Р. Глебаў і У. Карызна прадставілі планавыя вучэбныя работы — варыяцыі для аркестра.

Вельмі важны сам факт гэтых праслухоўванняў. І хочацца спадзявацца, што ў нашым музычным жыцці і надалей будзе менш пустых размоў і больш канкрэтных спраў. Не так жа і даўно на старонках «ЛіМа» рэктар БДК Міхал Казінец распавядаў аб праблемах, што паўстаюць перад кіраўніцтвам кансерваторыі. І вось — канкрэтнае вырашэнне адной з іх: будучыя кампазітары, нарэшце, атрымалі магчымасць правяраць свае работы ў «жывым» гучанні! Нездарма гаварылі студэнты: гонар і хвала М. Казінцу, які «ўтаймаваў фінансавага звера і ўпрог яго ў творчы воз».

Калісь раней, можа, і былі ў кансерваторыі магчымасці фінансаваць аналагічныя выкананні студэнцкіх твораў, але ж тое, што гэта адбылося цяпер, — добрая прыкмета часу.

Словам, музычнае жыццё рэспублікі развіваецца, узбагачаецца новымі з'явамі і нават пад час фестывалю вылучае праблемы, якія павінны вырашаць усе, каму дарагая справа развіцця нашай нацыянальнай культуры.

Людміла РАШЧЫНСКАЯ,
музыказнавец.



 

**«ЛіМ» ВЫСТУПІЎ. ЯКІ ВЫНІК?**

# Пра «вывучэнне пытання», «устаноўлены парадак» і іншае

Зварот чытача ў рэдакцыю звычайна не канчаецца публікацыяй ягонага ліста на газетнай паласе. Як правіла, выразка з надрукаваным пісьмом накіроўваецца рэдакцыяй у адпаведную інстанцыю (пры патрэбе — у некалькі) для азнаямлення і прыняцця мер. Мусім адзначыць, што апошнім часам арганізацыі, ведамствы і ўстановы, якія «турбуе» «ЛіМ» просьбамі адгукнуцца на лісты сваіх чытачоў, робяць гэта досыць акуратна, без напамінку. Адгукацца то адгукаюцца, ды, на жаль, не заўсёды так, як належала б, як хацелася б. Досыць часта рэагаванні на лімаўскія публікацыі носяць не дзелавы, прынцыповы і канкрэтны характар, а грашаць даўняю, так да канца і не вынішчанаю бюракратычна-чыноўніцкаю звычкаю — адмахнуцца ад справы, адбыцца няўцямнаю беззмястоўнаю, пустою адпіскаю. Што гэта так, сведчыць і апошняя пошта так званай «зваротнай сувязі» нашага штотыднёвіка.

У «ЛіМе» за 6 мая г. г. быў змешчаны ліст археолагаў В. Глінніка і І. Сінчука, у якім ішла гаворка аб тым, што наша грамадскасць дагэтуль не мае інфармацыі аб радыяцыйнай абстаноўцы ў рэспубліцы. Пытанне гэтае аўтараў ліста турбавала ў сувязі з тым, што ім даводзіцца працаваць на аб'ектах рэстаўрацыі ў розных рэгіёнах Беларусі, прыцягваць да археалагічных раскопак школьнікаў і студэнтаў, і таму хацелася б ведаць аб рэальным узроўні радыяцыйнага фону ў гэтых рэгіёнах.

З Міністэрства аховы здароўя рэспублікі, куды рэдакцыя накіравала ліст чытачоў, прыйшоў адказ за подпісам начальніка аддзела В. А. Сцяжко. У адказе напісана: «У цяперашні час кампетэнтнымі органамі рэспублікі вывучаецца магчымасць і парадак інфармацыі насельніцтва аб радыяцыйнай абстаноўцы. Абмежаванняў на правядзенне рэстаўрацыйных работ і археалагічных раскопак у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС на тэрыторыі Беларусі няма».

І больш — ні слова! І гэта напісана больш чым праз два гады пасля аварыі! Пытанне, у дадзеным выпадку — «магчымасць і парадак» — усё яшчэ вывучаецца! Як быццам гэта найвялікшая з праблем, цяжкая і невырашальная! Як быццам не можна было б даўно ўжо, як прапануюць нашы чытачы, штодня апавяшчаць аб гэтым радыёслухачам і тэлегледачам, накшталт звычных для ўсіх паведамленняў аб надвор'і!

Бянтэжыць і фраза аб адсутнасці абмежаванняў на правядзенне рэстаўрацыйных работ і археалагічных раскопак на тэрыторыі Беларусі. Што, гэтых абмежаванняў няма і ў тых зонах ці раёнах, што падвергнуліся радыяцыйнаму забруджванню? Ці так гэта? Ці адпавядае гэта сапраўднасці? Агульна вядома ж, што радыяцыйны фон там усё ж павышаны, інакш не выплачвалі б «рубель за дзень» пражывання ў пацярпеўшых раёнах людзям звыш зарплаты.

Прыблізна такога ж характару адказ-адпіску атрымала рэдакцыя і на ліст гісторыка-краязнаўцы, літаратара Г. Каханоўскага «Ці абавязкова зносіць?» («ЛіМ» за 2 ліпеня г. г.). Наш чытач выказваў заклапочанасць лёсам старога чыгуначнага вакзала на станцыі Уша Маладзечанскага раёна — цікавага помніка архітэктуры, звязанага з іменамі многіх слаўных сыноў Беларусі. Замест таго, каб зносіць будынак, чытач прапаноўваў адрамантаваць яго і адкрыць у ім музей гісторыі і нашай чыгункі, і гісторыі краю.

На ліст Г. Каханоўскага прыслаў рэагаванне намеснік начальніка Беларускай чыгункі Г. С. Яцэнка. Ён бясстрасна паведаміў, што «будынак вакзала стары, па сваіх памерах не задавальняе існуючы пасажырапаток», «у ім няма магчымасці выдзеліць памяшканні для абсталявання аўтаматычнага кіравання работай станцыі», што «праект будаўніцтва вакзальнага комплексу ўзгоднены і зацверджаны ва ўстаноўленым парадку» і «што захаванне існуючага будынка вакзала і арганізацыя ў ім музея не мэтазгодна». Быццам усё тут правільна і слушна: будынак стары, не дае магчымасці, не адпавядае і г. д. А па сутнасці? А калі зірнуць на вакзал, што стаіць шмат дзесяцігоддзяў на станцыі Уша, не проста як на стары будынак, а як на помнік архітэктуры і гісторыі — так, як глядзеў, як бачыць яго наш чытач? Мо тады ў кіраўніцтва нашай чыгункі магло б знайсціся нейкае іншае рашэнне адносна лёсу старога вакзала?

Даўнавата ўжо, яшчэ 18 сакавіка сёлетняга года, у «ЛіМе» было змешчана пісьмо нашага чытача з Віцебска М. Паўлава. Ён падтрымліваў прапанову многіх віцябчан аб вяртанні да жыцця назвы «Ратушная плошча» гістарычнай мясціне горада, сведцы шматлікіх падзей і віхур часу. Хоць са спазненнем, аднак жа адгукнуўся на гэты ліст загадчык аддзела культуры Віцебскага гарвыканкома В. Д. Кібісаў. А галоўнае — адказ яго дзелавы, сціслы і пэўны: публікацыя разгледжана аддзелам культуры разам з АПУ гарвыканкома, пытанне вырашана станоўча.

Аўтар ліста «Экстэнсіўнае гаспадаранне — учарашні дзень» З. Санько («ЛіМ» за 6 мая г. г.) пісаў аб тым, што бяздумнае шырокамаштабнае ўмяшанне ў прыроду наносіць ёй вялікую шкоду. Ён, у прыватнасці, трывожыўся за лёс Прыпяці, абураўся праектам яе абвалавання.

Адказаў газеце і чытачу старшыня Дзяржкамітэта БССР па ахове прыроды В. А. Казлоў. Ён паведамляе, што ТЭА мерапрыемстваў па ахове аб'ектаў народнай гаспадаркі ад паводкі на Прыпяці і яе прытоках была распрацавана яшчэ ў 1978 годзе, што зараз яна ўстарэла, што выдзелены сродкі на дадатковыя работы па паляпшэнні экалагічнага забеспячэння ТЭА, што пасля ўсяго гэтага праблема будзе разгледжана ўсімі зацікаўленымі арганізацыямі і грамадскасцю для прыняцця канчатковага рашэння.

15 красавіка г. г. у «ЛіМе» быў змешчаны калектыўны ліст групы мінчан «Ля Свіслачы, на Татарскіх агародах». Аўтары ліста пісалі пра недаўменне, якое выклікалі ў іх разгорнутыя работы па спрамленні рэчышча Свіслачы ў раёне былых Татарскіх агародаў, ставілі пытанне аб тым, ці была неабходнасць праводзіць такія работы, выказвалі сумненне, ці будзе ўсё гэта на карысць рацэ і гораду, ці разумна наогул вось так бесцырымонна перакройваць гарадскі ландшафт, парушаць спрадвечны прыродны малюнак мясцовасці.

На гэты чытацкі ліст прыйшло рэагаванне з ГалоўАПУ Мінгарвыканкома за подпісам намесніка галоўнага архітэктара Мінска В. В. Крывашэева. Ёсць у ім нібыта разумныя і пераканаўчыя словы аб тым, што работы па рэгуляванні рэчышча ракі і добраўпарадкаванні прыбярэжных зон на ўчастку ад Траецкага прадмесця да Палаца спорту ажыццяўляюцца па праектнай дакументацыі, якая рэалізуе асноўныя палажэнні генеральнага плана сталіцы, што ўсё гэта робіцца з улікам гісторыка-археалагічных аб'ектаў, што зберажэнне тут ранейшага ландшафта «исключено не только по причинам инженерно - технического порядка, но и с точки зрения социальных функций центра города Минска», і г. д. А вось таго, што гучала ў лісце нашых чытачоў, не адчуваецца. Маем на ўвазе шчырую заклапочанасць і сардэчную трывогу жыхароў за лёс роднага горада, за яго будучыню.

У свой час у штотыднёвіку былі змешчаны допісы А. Казловіча «Хопіць» («ЛіМ» за 15 красавіка г. г.) і В. Касмылёва «Колішні Віленскі — зберагчы» («ЛіМ» за 1 красавіка). У першым ішла гаворка пра адзін канкрэтны выпадак меліяратарскай «звышстараннасці» (у калгасе «Прамень» Капыльскага раёна), у другім—пра неабходнасць зберагчы цяперашні Мінскі чыгуначны вакзал—былы Віленскі. 10 чэрвеня ў рэдакцыйным аглядзе былі згаданы рэагаванні на гэтыя публікацыі. Старшыня Дзяржкамітэта БССР па ахове прыроды В. А. Казлоў паведамляў, што работы на меліярацыйным аб'екце ў саўгасе «Прамень» прыпынены «да высвятлення адносін з насельніцтвам». А намеснік галоўнага архітэктара горада Мінска В. Д. Нікіцін напісаў у рэдакцыю, што цяперашняя першая чарга рэканструкцыі Мінскага чыгуначнага вакзала не закранае існуючых будынкаў, а далейшую распрацоўку праекта мяркуецца шырока абмеркаваць з грамадскасцю.

Пазней на гэтыя нашы публікацыі прыйшлі рэагаванні з іншых ведамстваў. Па першай з іх прыйшло рэагаванне з Капыльскага раёна за подпісам першага намесніка старшыні райвыканкома Я. В. Сіўца. Ён піша, што ў раёне была створана прадстаўнічая і аўтарытэтная камісія, якая пасля глыбокага вывучэння пытання і абмеркавання яго на сходзе жыхароў вёскі Пясочнае прыйшла да высновы зберагчы ў натуральным стане два ўчасткі на аб'екце плошчаю 2 і 4 гектары, у прыватнасці захаваць мясціны, у якіх водзяцца бабры.

На другую публікацыю адгукнулася намеснік старшыні прэзідыума Рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Г. Саўчанка. У адказе паведамляецца, што ліст В. Касмылёва абмеркаваны на сумесным пасяджэнні секцый гісторыі, архітэктуры і горадабудаўніцтва Рэспубліканскага і Мінскага гарадскога саветаў Таварыства. На ім прынята рашэнне аб зберажэнні будынка чыгуначнага вакзала ў Мінску як помніка гісторыі. Ліст аб неабходнасці яго зберажэння накіраваны ў ГалоўАПУ г. Мінска.

Што ж, будзем спадзявацца, што там прыслухаюцца да гэтай думкі грамадскасці, не будуць спяшацца з прыняццем рашэння аб зносе будынка колішняга Віленскага вакзала, а, наадварот, зробяць усё для таго, каб зберагчы яго, захаваць для нашчадкаў як помнік гісторыі горада.

**Аддзел пісьмаў «ЛіМа».**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# Да Нарэйкаў прыходзіў Купала

25 гадоў я вяду на Беларускім тэлебачанні шашачны клуб «Белыя і чорныя». І час ад часу звяртаюся да тэлегледачоўаматараў народнай гульні даслаць свае заяўкі, просьбы і заўвагі аб перадачах. І дзякуючы таму, набыў шмат сяброў, якія шчыра дапамагаюць мне ў рабоце.

За гэты час цяжка пералічыць, колькі было атрымана пісьмаў ад рабочых, служачых, працаўнікоў вёскі, студэнтаў, школьнікаў.

Вельмі ўзрадаваўся я і водгуку доктара філалагічных навук, пісьменніка Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Я быў крануты заўвагамі прафесара — аўтара многіх мастацкіх і кніг па беларускай лексіцы. Ён адзначаў добрую, а часам і народную мову. Хоць, шчыра кажучы, у мяне да сапраўднага ведання мовы — «дистанция огромного размера». Я хацеў у пісьме падзякаваць вучонаму, але ён сам закрануў мяне на вуліцы.

Добразычлівы і просты, ён даў мне некалькі каштоўных парад, падарыў мне сваю кнігу «Абразкі».

Запомнілася і пісьмо з Маладзечна, якое атрымаў у лютым 1980 года. Напісаў мне кандыдат гістарычных навук Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі. Ён адзначаў добрае гучанне шахматна-шашачнай тэрміналогіі на беларускай мове, дзякаваў за прапаганду роднай мовы. Папрасіў таксама расказаць трошкі больш пра сябе. Я адказаў, што нарадзіўся ў Мінску ў 1911 годзе на другой Сяргееўскай вуліцы. У нашым двары жыла стрыечная сястра Янкі Купалы Ізабэла Нарэйка са сваім сынам Міхасём. Мае старэйшыя браты Георгій, нараджэння 1902 года, і Анатоль — 1904 года, сябравалі і вучыліся ў адной школе з Міхасём. А першае знаёмства з шашкамі адбылося тады, калі да цёткі Ізабэлы, звычайна пад вечар, прыходзіў Іван Дамінікавіч. Тут я, чатырох- ці пяцігадовы хлапчук, забягаў у хату і крычаў бацьку «прысоў саціні-цель!». Бо менавіта так мая маці Таццяна Іванаўна называла Івана Дамінікавіча — не паэтам, а «сочинителем».

Бацька мой Венядзікт Адрыянавіч, выходзіў на двор і, паціскаючы адзін аднаму рукі, яны садзіліся на лаўку, якая была ля невялікага дамка Нарэйкаў. А дамок складаўся з невялічкіх сенцаў, куханькі і адзінага пакойчыка. Направа ад кухні — дзверцы ў склад. Я па памяці намаляваў гэты дамок, план яго, як і частку вуліцы Рабкораўскай (тады 2-й Сяргееўскай) для музея імя Янкі Купалы.

Калі цёткі Ізабэлы яшчэ не было дома, то бацька доўга размаўляў з Купалам і, як я добра памятаю, толькі на польскай мове. І, відаць, таму, што бацька быў веравызнання рымска-каталіцкага. Маці ж была праваслаўнай. Аб чым вялася гутарка паміж імі, канечне, я не разумеў. А для мяне было самым цікавым, калі яны пасылалі ў кватэру за шашкамі і пачыналі гульню. Я цярпліва чакаў збітых шашак, з якіх тут жа будаваў вежы, домікі і г.д. Па заканчэнні партыі я зноў вяртаў іх і нават дапамагаў расстаўляць шашкі на дошцы.

Пазней мой бацька з сям'ёй быў, як чыгуначнік, пераведзены працаваць на Украіну. Вярнуўся я адтуль толькі праз 10 гадоў пятнаццацігадовым юнаком, забыўшы нават сваю мову, бо вучыўся і гаварыў толькі па-ўкраінску. Але вучоба ў беларускай школе, захапленне літаратурай рабілі сваю справу. Між іншым са мной у адным класе вучылася будучая жонка Міхася Нарэйкі Тамара Сабалеўская. І ён з ёю ў гадах 1929 ці 1930 быў у нас некалькі разоў дома, іграў на гітары, спяваў, размаўляў з братам Анатолем і маёй маці Таццянай Іванаўнай. Міхась гаварыў, што многа абавязаны, нават і матэрыяльна, свайму дзядзьку Янку.

У 1926 годзе ў кніжнай краме, якая была на Ленінскай вуліцы, я сустрэўся з Я. Купалам і адразу яго пазнаў — у той час на вучнёўскіх сшытках друкаваліся партрэты пісьменнікаў і кіраўнікоў Беларусі. Тады я так загледзеўся на паэта, што ён звярнуў на мяне ўвагу і лагодна, з нейкай асаблівай, Купалавай усмешкай паглядзеў на мяне. Я пачырванеў і не наважыўся падысці бліжэй. Потым не раз бачыў і чуў выступленні Я. Купалы ў Вышэйшым педагагічным інстытуце імя М. Горкага, у якім вучыўся брат Георгій. Сустракаў Івана Дамінікавіча на вуліцы і вельмі шкадую, што так і не адважыўся з ім загаварыць, напомніць пра бацьку, якога страціў у Рамнах у 1925 годзе.

У адным з лістоў Г. А. Каханоўскі пісаў мне: «Сардэчна дзякую за каштоўны падарунак — Вашу кнігу з аўтографам, абавязкова напішыце ўспаміны аб Я. Купалу, тым больш гэта неабходна зрабіць перад 100-годдзем з дня нараджэння паэта».

Я адказаў, што не маю на гэта падстаў, бо ўсё можа паказацца надуманым, а М. Нарэйка загінуў у Вялікую Айчынную вайну. Але мае знаёмыя па адной з рэдакцый пісьменнікі У. М. Шышік і М. Ф. Хведаровіч (якога ўжо няма) і некаторыя журналісты ўсё ж раілі напісаць успаміны.

Цяпер, працуючы над кнігай «Дарагія тэлегледачы, дарагія аматары шашак!» у раздзеле «З чаго пачыналіся шашкі» я хачу ўзнавіць і гэты эпізод майго першага знаёмства з любімай гульнёй.

**Аркадзь РАКІТНІЦКІ,**
**заслужаны трэнер БССР.**

# Жыць традыцыям

Семінар разьбяроў па дрэве, у якім прынялі ўдзел члены Мінскага гарадскога творчага клуба, майстры Жодзіна і Маладзечна, Капыльскага, Стаўбцоўскага, Смалявіцкага і іншых раёнаў Міншчыны, прайшоў у Івянцы. На працягу трох дзён вялася гаворка аб выкарыстанні народных традыцый у творчасці, аб суадносінах нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў мастацтве, аб адкрыцці музея народнага майстра А. Пупко. Удзельнікі семінара сустрэліся з івянецкімі ганчарамі, пазнаёміліся з творчасцю юных выхаванцаў студыі выяўленчага і дэкаратыўна - прыкладнога мастацтва мясцовай школы імя Ф. Э. Дзяржынскага.

**А. РАМАНОЎСКІ.**

*III Усесаюзны фестываль народнай творчасці*

**Увага да фальклору — гэта не пераменлівая мода, а напрамак, абумоўлены перабудовай, бо фальклор — тая крыніца, што здольна даць новы штуршок развіццю сучаснай культуры. Таму міжнародны фальклорны фестываль у Маскве, які адбудзецца ў жніўні, вымагаў сур'ёзнай падрыхтоўкі.**

# НОСЬБІТ І СТВАРАЛЬНІК

## ПРА ШТО РАСКАЗАЛА АНКЕТА

Якое ж месца займае фальклор у рэпертуары культурна - асветных устаноў рэспублікі? Адказы з месцаў на анкету, распрацаваную Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтрам, дазваляюць сказаць, што ў рэспубліцы налічваецца каля 700 фальклорных калектываў. Найбольш калектываў налічваецца на Брэстчыне — 269, у адным толькі Столінскім раёне — 55. Адны ўзніклі раней, другія пазней, але ўдаецца прасачыць, што, напрыклад, на Гродзеншчыне найбольш было іх створана ў 1986 годзе.

Матэрыялы анкеты сведчаць, што наспеў час установам культуры звярнуць пільную ўвагу на кантынгент удзельнікаў фальклорных калектываў. Хіба не можа не насцярожваць той факт, што з калектываў Брэстчыны толькі ў двух удзельнікі — дзеці і юнакі. Здавалася б, каму ж, як не органам асветы, улічыць гэты пралік? У той жа час мне неаднойчы даводзілася чуць нараканні работнікаў культуры, што настаўнікі не зацікаўлены ў гэтым. А чаму б у школе не стварыць гурток з рэпертуарам не абы-якіх песняў, а фальклорных, далучыўшы да кіравання ім мясцовага знаўцу вуснапаэтычнай творчасці?

З адказу анкеты бачна, што работнікі культуры няправільна ўяўляюць, што такое фальклорны калектыў. Недарэчна адносіць да фальклорных калектывы, канцэртны рэпертуар якіх складаецца з песень «Славься, Земля», «Оренбургский платок». І толькі па рэпертуары калектываў Столінскага раёна адчуваеш — тут спяваюць абрадавыя, жніўныя, калядныя і іншыя песні. У сельскім клубе вёскі Багатырская Полацкага раёна рэпертуар калектыву «Голас спадчыны» налічвае шмат народных песень, якія спявалі некалі ў час апрацоўкі лёну і іншай работы.

У асноўным фальклорныя ансамблі песенныя, радзей музычныя, харэаграфічныя, этнаграфічныя. Іграюць на сучасных інструментах, дзенідзе на самаробных (дудка, бубен, вугольнік, трашчотка). Голас старадаўняй басэтлі можна пачуць у «Крупіцкіх музыкаў». Ёсць калектывы, у якіх іграюць, спяваюць, танцуюць, — напрыклад, у вёсцы Новая Дубрава Акцябрскага раёна.

Вытворчасць музычных інструментаў — таксама праблема. Толькі ў Паставах працуе У. Новік, які вырабляе цымбалы, — паказала анкета. Відавочна, што з цягам часу проста не будзе на чым граць. А які фальклорны калектыў без музыкі? Няўжо работнікі ўстаноў культуры будуць склаўшы рукі чакаць, калі вытворчасць распачне выраб інструмента? Некалі ж іх майстравалі з мясцовай сыравіны: дрэва, рога, гліны, косці, саломы, металу, скуры. На тэрыторыі Беларусі меліся рэгіёны, дзе бытавалі тыя ці іншыя народныя інструменты. Таму, зыходзячы з адказу анкет, нельга пагадзіцца, што па вёсках не засталося ўмельцаў. Яны былі і ёсць, толькі многія майстры занядбалі справу, а культасветработнікі не ідуць да іх, недаацэньваюць іх творчасць. Напрыклад, у вёсцы Неглюбка Веткаўскага раёна яшчэ ў саракавыя гады працавала звыш 20 майстроў, а ў 70-я толькі П. Прыходзька майстраваў пявучыя гармонікі. Гаспадарчы разлік, магчымасць стварэння хааператываў дазваляюць актывізаваць творчасць мясцовых умельцаў і вырашаць праблему вырабу фальклорных музычных інструментаў.

Фальклорныя танцы ў рэпертуары сустракаюцца яшчэ радзей. Так, у Доме культуры вёскі Галоўчыцы Драгічынскага раёна скачуць мясцовую «Ночку», а ў вёсцы Дрыботы гэтага ж раёна свая «Дрыбоцкая полечка». Паводле слоў харэографа М. Казенкі, амаль у кожнай вёсцы можна сустрэць людзей, якія памятаюць старадаўнія танцы. Нават у Бярозаўцы Нараўлянскага раёна давялося сустрэць жанчыну, якая расказала, як у маладосці дзяўчаты гуртам, на падставе ўзору, які існаваў у іхняй вёсцы раней, склалі ўласны варыянт танца «Кашэль». У розных рэгіёнах рэспублікі можна выявіць непаўторныя мясцовыя танцы.

Хоць дамы народнай творчасці былі створаны 50 гадоў назад, але на практыцы яны «падцягвалі» самадзейнае мастацтва да ўзроўню прафесійнага. Зыходзячы з гэтага, як ні стараліся, рук не ставала, каб ахапіць і «цягнуць» усе калектывы. І хоць стварылі самадзейных калектываў нямала, на практыцы ўсё часцей і часцей стала адчувацца — народ не прымае культуру, якую яму падносяць, абрыдлі настаўнікі-летуны, з якіх адзін гаворыць адно, другі вучыць іншаму, не даючы магчымасці раскрыцца творчаму патэнцыялу самога чалавека. А настаўнікаў, рэвізораў хапала, бо з году ў год панавала думка, што спецыяліст — галоўны стваральнік культуры на вёсцы. Гэта ж ён складае сцэнарыі мерапрыемстваў, вучыць людзей пець, танцаваць, сам праводзіць мерапрыемствы, валодае тэхнічнымі сродкамі і г. д. Але ж стваральнік і носьбіт культуры — народ. Неразуменне гэтага было адной з прыкрых памылак у практыцы культасветработы папярэдніх гадоў. Адзін чалавек, які б ён здольны ні быў, не можа кампетэнтна ствараць і развіваць культуру, і таму работнік дома культуры павінен быць найперш таленавітым арганізатарам. Непамерная ноша, узваленая на плечы сельскага работніка культуры, калі ад яго патрабуюць і ствараць, і прапагандаваць культуру, прывяла да вялікай цякучасці кадраў. Толькі ў Мінскай вобласці кожныя тры гады мяняецца амаль 50 працэнтаў культасветнікаў.

Такім чынам, доўгі час мы стваралі «культуру для народа», не ўлічваючы культуру саміх мясцовых жыхароў — фальклор. І ў выніку спецыяліст з вышэйшай адукацыяй, знаёмы з творчасцю Пікасо, Рэпіна, не разумее і не лічыць патрэбным разабрацца ў мастацкіх вартасцях народных ручнікоў, вясельных караваяў, строяў ці вуснапаэтычнай творчасці той мясцовасці, дзе ён працуе. Мяркую, сёння варта звярнуць увагу і на фальклор прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы. А жывуць тут, як вядома, не толькі беларусы, ёсць цэлыя вёскі, дзе большасць жыхароў складаюць татары, яўрэі, палякі, рускія, цыганы. Які ж вялікі пазнавальны, навуковы інтарэс можа ўявіць, напрыклад, фальклор беларускіх татар, калі будзе магчымасць прасачыць, што ў ім захавалася з культуры продкаў, што запазычана ад тутэйшых жыхароў, а што нарадзілася новае. Вось чаму РНМЦ плануе правесці эксперымент па адраджэнні фальклору кожнай з нацыянальнасцей.

Практыка паказала — у выніку недаацэнкі фальклору самадзейнае мастацтва на працягу шматлікіх гадоў развівалася аднабакова і ў нейкім плане нават адмоўна паўплывала на прафесійнае. Амаль пустыя залы ў час апошняй тэатральнай дэкады ў Мінску — горадзе, больш як з мільённым насельніцтвам, паказала, што людзям надакучылі адны і тыя ж пастаноўкі. Калі тэатр вёскі Пяршай Валожынскага раёна, паказаў на сцэне ўніверсітэта «Пінскую шляхту», то ў зале сядзела не больш як дзесяць студэнтаў. Самадзейны тэатр, запазычваючы ад прафесійнага рэпертуар, акцёрскае майстэрства, дэкарацыі, зайшоў у тупік.

І ў той жа час тэатр «Мотальскія суседкі» Іванаўскага раёна — з'ява зусім новага характару, але не выпадковая, бо гісторыя ведае народную батлейку, пастаноўку «Цар Максімільян» і іншыя фальклорныя тэатры. Мясцовы фальклор даў імпульс мотальскаму тэатру. Што ж за рэпертуар у «Мотальскіх суседак»? З'явіўся мясцовы энтузіяст — Вольга Мацукевіч, загадчыца дзіцячай бібліятэкі, якая паспрабавала ўспомніць і апісаць гумарыстычныя выпадкі з жыцця вёскі, з успамінаў пажылых кабет. Выкарысталі старадаўнія мясцовыя танцы, песні, прымаўкі, абрады — вось і гатовая пастаноўка. Тут акцёры не маюць патрэбу вучыць свае ролі, бо змест сцэнак кожны ведае змалку, а на сцэне іграе, зыходзячы з свайго прыроднага акцёрскага майстэрства. Дэкарацыі — атрыбутыка мясцовага побыту. Цешыць слых мясцовы дыялект і вока вабіць непаўторнае хараство вырабаў гэтага куточка зямлі. Варта было б работнікам культуры пераняць вопыт маталян, сур'ёзна паставіцца да аб'яднання носьбітаў традыцыйнай культуры ў фальклорныя калектывы.

Недахопаў, якія выявіліся пры ўдзеле нашай рэспублікі ў міжнародных фальклорных фестывалях, пра што сёлета пісала ў «ЛіМе» Ю. Чурко, магчыма пазбегнуць, калі культура будзе кампетэнтна накіроўвацца метадычнымі службамі. А пакуль яны са сваімі абавязкамі не спраўляюцца. Нежаданне разабрацца ў спадчыне прывяло да хаосу ў сучаснай культасветрабоце, да адмаўлення нават таго, што ўжо самі стварылі, сваімі ж рукамі. Прыдумваем усё новыя і новыя ідэі, праводзім усё новыя і новыя мерапрыемствы, але не хапае часу іх прааналізаваць, паставіць на навуковую аснову. Фальклор нас вучыць — непарушны закон прыроды і гармонія свету трымаецца на перадачы вопыту ад бацькоў да дзяцей. Хочацца верыць, што пралікі ў культасветнай практыцы папярэдніх гадоў будуць пераадолены.

**Марыя ЖАБІНСКАЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік РНМЦ.**




**З 1 ПА 7 ЖНІЎНЯ**

**1 жніўня, 19.30**
**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**
Агляд крытычнай пошты за тыдзень.

**1 жніўня, 20.00**
**«ЖЫВОЕ ДРЭВА МУЗЫКІ»**
Выступае маладзёжны камерны хор. Гучаць творы Хаслера, Сертона, Гаспарыні, Аркадэльта.

**2 жніўня, 21.50**
**«ЛІРА»**
Мастацка-публіцыстычная праграма. Размову аб захаванні манументальных твораў, што ўпрыгожваюць Мінск, вядуць мастацтвазнавец П. Васілеўскі і заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Кішчанка. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР прарэктар БДТМІ В. Шаранговіч узнімае пытанні падрыхтоўкі мастакоў. Журналіст В. Дубінка знаёміць з мастацтвам выцінанак.

**3 жніўня, 19.20**
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**
Вершы Р. Барадуліна чытае артыст А. Падабед.

**3 жніўня, 19.25**
**«ШЭДЭЎРЫ РУСКАЙ МУЗЫКІ»**
Канцэрт сімфанічнага аркестра Беларускага тэлебачання і радыё.
У праграме творы Рымскага-Корсакава, Рубінштэйна, Пракоф'ева.
Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

**5 жніўня, 19.50**
**«БУГ»**
Літаратурна-мастацкі часопіс.
Будзе прадстаўлена новая кніга У. Калесніка «Тварэнне легенды».

**6 жніўня, 12.00**
**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**
П. Смялкоўскі. Рамансы на вершы П. Броўкі.
Выканаўца — народны артыст РСФСР Э. Пелагейчанка.
Канцэртмайстар — заслужаная артыстка БССР Л. Максімава.

**6 жніўня, 14.00**
**«СПАДЧЫНА»**
Беларускі фонд культуры: праблемы захавання духоўнага багацця народа. Прамая лінія.

**6 жніўня, 18.15**
**«КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ...»**
Песні народнага артыста СССР І. Лучанка. Да 50-годдзя з дня нараджэння.

**6 жніўня, 19.35**
**«НАШЫ ГОСЦІ»**
Народны артыст СССР А. Джыгарханян.

**6 жніўня, 23.25**
**ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ**
Літоўскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам П. Сандэцкіса іграе Моцарта.

**7 жніўня, 23.00**
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**
Інфармацыйна-музычная праграма.

## АБ'ЯВЫ



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01318 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
**ТЭЛЕФОНЫ:** прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.